**сверхуро́чная з.** звышуро́чная зарпла́та;

**среднеме́сячная з.** сярэдняме́сячная зарпла́та;

**тари́фная з.** тары́фная зарпла́та

**зарубе́жное патентова́ние** заме́жнае патэнтава́нне

**засвиде́тельствование** засве́дчанне *ср.*;

**з. ко́пии докуме́нта** засве́дчанне ко́піі дакуме́нта;

**нотариа́льное з.** натарыя́льнае засве́дчанне

**засвиде́тельствованный** засве́дчаны, заве́раны

**засвиде́тельствовать** засве́дчыць, заве́рыць;

**з. по́дпись** засве́дчыць (заве́рыць) по́дпіс

**заседа́ние** пасяджэ́нне *ср.*;

**закры́тое з.** закры́тае пасяджэ́нне;

**откры́тое з.** адкры́тае пасяджэ́нне;

**плена́рное з.** плена́рнае пасяджэ́нне;

**расши́ренное з.** пашы́ранае пасяджэ́нне;

**совме́стное з.** суме́снае пасяджэ́нне

**заседа́ть** засяда́ць

**засекре́тить** засакрэ́ціць

**засекре́ченный** засакрэ́чаны

**засекре́чивание** засакрэ́чванне *ср.*

**засекре́чивать** засакрэ́чваць

**заслу́га** заслу́га *ж.*

**заслу́женно** заслу́жана

**заслу́женный** заслу́жаны

**заслу́живать** заслуго́ўваць

**заслужи́ть** заслужы́ць

**заслу́шание** заслу́хванне *ср.*

**заслу́шанный** заслу́ханы

**заслу́шать** заслу́хаць

**заслу́шивание** заслухо́ўванне *ср.*

**заслу́шивать** заслухо́ўваць

**застенографи́рованный** застэнаграфава́ны

**застенографи́ровать** застэнаграфава́ць

**затра́та** *ж.* затра́та *ж.*; *(издержка)* выда́так, -тку *м.*;

**з. вре́мени** затра́та часу;

**нерациона́льные затра́ты** нерацыяна́льныя выда́ткі;

**трудовы́е затра́ты** працо́ўныя затра́ты

**затра́ченный** затра́чаны; вы́даткаваны

**затра́чивание** *ср.* затра́та *ж.*; выдаткава́нне *ср.*

**затра́чивать** затра́чваць; выдатко́ўваць

**затре́бование** запатрабава́нне *ср.*;

**з. докуме́нтов** запатрабава́нне дакуме́нтаў;

**з. дополни́тельных да́нных** запатрабава́нне дадатко́вых да́ных

**затре́бованный** запатрабава́ны

**затре́бовать** запатрабава́ць; *(вызвать)* вы́клікаць

**затуха́ющий текст** затуха́льны тэкст

**зафикси́рованный** зафіксава́ны

**зафикси́ровать** зафіксава́ць

**зачёркивание** закрэ́сліванне *ср.*

**зачёркивать** закрэ́сліваць

**зачёркнутая за́пись** закрэ́слены за́піс

**зачёркнутый** закрэ́слены

**зачеркну́ть** закрэ́сліць

**зачёт** *м. (действие)* залічэ́нне *ср.*, залі́к, -ку *м.*

**зачётная кни́жка** залі́ковая кні́жка

**зачисле́ние** залічэ́нне *ср.*;

**з. в штат** залічэ́нне ў штат

**зачи́сленный** залі́чаны

**зачи́слить** залічы́ць

**зачисля́ть** залі́чаць, залі́чваць;

**з. на теку́щий счёт** *бухг.* залі́чваць на бягу́чы раху́нак

**зачи́тывание**[1] залічэ́нне *ср.*, залічванне *ср.*
**зачи́тывание**[2] зачы́тванне *ср.*
**зашифро́ванный** зашыфрава́ны
**зашифрова́ть** зашыфрава́ць
**зашифро́вывание** зашыфро́ўванне *ср.*
**зашифро́вывать** зашыфро́ўваць
**зашифро́вываться** зашыфро́ўвацца
**заштампо́ванный** заштампава́ны
**заштампова́ть** заштампава́ць
**заштампо́вывать** заштампо́ўваць
**заштемпелёванный** заштэмпелява́ны
**заштемпелева́ть** заштэмпелява́ць
**заштемпелёвывать** заштэмпелёўваць
**защи́та** 1. абаро́на *ж.*; 2. *(предохранение)* ахо́ва *ж.*, засцяро́га *ж.*;
**з. диссерта́ции** абаро́на дысерта́цыі;
**з. докуме́нтов от биологи́ческих разруша́ющих фа́кторов** ахо́ва дакуме́нтаў ад біялагі́чных разбура́льных фа́ктараў;
**з. докуме́нтов от пы́ли** ахо́ва дакуме́нтаў ад пы́лу;
**з. окружа́ющей среды́** ахо́ва навако́льнага асяро́ддзя;
**правова́я з. архи́вных докуме́нтов** правава́я ахо́ва архі́ўных дакуме́нтаў;
**электростати́ческая з. фотодокуме́нтов** электрастаты́чная ахо́ва фотадакуме́нтаў
**защити́тельный** *(предохранительный)* ахо́ўны, засцерага́льны
**защи́тный ракорд** ахо́ўны (засцерага́льны) рако́рд
**защи́тный цвет** ахо́ўны ко́лер
**защища́ть** *(предохранять)* ахо́ў - ваць, засцерага́ць
**защищённость** *(от света, сырости)* ахава́насць *ж.*, засцяро́жанасць *ж.*
**защищённый** ахава́ны, засцяро́жаны

**заяви́тель** зая́ўнік *м.*
**заяви́тельница** зая́ўніца *ж.*
**зая́вка** зая́ўка *ж.*;
**з. на вы́дачу докуме́нтов** зая́ўка на вы́дачу дакуме́нтаў;
**з. на изда́ние** зая́ўка на выда́нне;
**з. на изобрете́ние** зая́ўка на вынахо́дства;
**з. на креди́ты** зая́ўка на крэды́ты;
**з. на материа́льно-техни́ческое снабже́ние** зая́ўка на матэрыя́льна-тэхні́чнае забеспячэ́нне
**заявле́ние** *ср.* зая́ва *ж.*;
**анони́мное з.** анані́мная зая́ва;
**з. на аккредити́в** зая́ва на акрэдыты́ў;
**з. на вы́дачу архи́вной спра́вки** зая́ва на вы́дачу архі́ўнай даве́дкі;
**з. на вы́дачу ссу́ды** зая́ва на вы́дачу пазы́кі;
**з. о до́пуске к архи́вным докуме́нтам** зая́ва аб до́пуску да архі́ўных дакуме́нтаў;
**з. о назначе́нии пе́нсии** зая́ва аб назначэ́нні пе́нсіі;
**исково́е з.** і́скавая зая́ва;
**коллекти́вное з.** калекты́ўная зая́ва;
**пи́сьменное з.** пісьмо́вая зая́ва;
**у́стное з.** ву́сная зая́ва
**заявле́ние-обяза́тельство** *ср.* зая́ва-абавяза́цельства *ж.*
**зая́вленный** зая́ўлены
**заявля́ть** заяўля́ць
**зая́вочный** зая́вачны
**зва́ние** зва́нне *ср.*;
**духо́вное з.** духо́ўнае зва́нне;
**почётное з.** ганаро́вае зва́нне;
**учёное з.** вучо́нае зва́нне
**звено́** звяно́ *ср.*, *мн.* звёны
**звук** гук, гу́ку *м.*

**звуковáя информáция** гукавáя інфармáцыя
**звуковóй докумéнт (фонодокумéнт)** гукавы́ дакумéнт (фонадакумéнт)
**звуковоспроизведéние** гукаўзнаўлéнне *ср.*
**звуковоспроизводя́щий** гукаўзнаўля́льны
**звукозапи́сывающий** гуказапісны́
**звукозáпись** *ж.* гуказáпіс, -су *м.*
**звукоконтрóльный стол** гукакантрóльны стол
**звукомонтáжный стол** гукамантáжны стол
**звуконоси́тель** гуканóсьбіт *м.*
**звукообразовáние** гукаўтварэ́нне *ср.*
**звукоперáтор** гукааперáтар *м.*
**звукоснимáтель** гуказдымáльнік *м.*
**звучáние** гучáнне *ср.*
**здáние** буды́нак *м.*
**зéмская упрáва** *ист.* зéмская ўпрáва
**зéмские áкты** *ист.* зéмскія áкты
**зéмский** *ист.* зéмскі
**зерни́стость** зярні́стасць *ж.*;
**з. фотоизображéния** зярні́стасць фотаадлюстравáння
**злоупотреблéние** злоўжывáнне *ср.*;
**з. влáстью** злоўжывáнне ўлáдай;
**з. довéрием** злоўжывáнне давéрам;
**з. служéбным положéнием** злоўжывáнне службóвым станóвішчам
**злоупотребля́ть** злоўжывáць
**знак** знак *м.*;
**водянóй з. (филигрáнь)** вадзяны́ знак (філігрáнь);
**гéрбовый з.** гéрбавы знак;
**графи́ческий з.** графíчны знак;
**дéнежный з.** грашóвы знак;
**нагрýдный з.** нагрýдны знак;
**пи́сьменный з.** пісьмóвы знак;
**товáрный з.** тавáрны знак;
**фи́рменный з.** фірменны знак
**знаменáтельность** знамянáльнасць *ж.*; характэ́рнасць *ж.*
**знаменáтельный** знамянáльны; паказáльны; характэ́рны
**знаменовáть** азначáць *(што)*, свéдчыць *(пра што)*
**знáние** *ср.* 1. *(наука)* вéды *ед. нет;* 2. *(знакомство с чем-либо)* вéданне *ср.*;
**з. дéла** вéданне спрáвы
**знáчащий** 1. які́ (што) знáчыць; 2. *прил.* знáчны
**значéние** значэ́нне *ср.*
**знáчимость** знáчнасць *ж.*; вáжнасць *ж.*
**знáчимый** знáчны; вáжны
**значи́тельность** знáчнасць *ж.*; вáжнасць *ж.*
**значи́тельный** *(большой)* знáчны; *(важный)* вáжны
**знáчить** знáчыць, азначáць, мець значэ́нне; быць вáжным
**знáчиться** знáчыцца; *(числиться)* лічы́цца
ЗНМС *см.* **зонáльный наýчно-методи́ческий совéт**
**золотáя валю́та** залатáя валю́та
**зóна** зóна *ж.*;
**з. комплектовáния архи́ва** зóна камплектавáння архíва;
**свобóдная з.** свабóдная зóна
**зонáльный наýчно-методи́ческий совéт (ЗНМС)** занáльны навукóва-метады́чны савéт (ЗНМС)

# И

**ИВЦ** *см.* **информациóнно-вычислúтельный центр**
**идеáльная óпись архúвного фóнда** ідэáльны вóпіс архíўнага фóнду
**идентификациóнный код** ідэнтыфікацы́йны код
**идентификáция** ідэнтыфікáцыя *ж.*
**идентифицúрованный** ідэнтыфікавáны
**идентифицúровать** ідэнтыфікавáць
**идентúчно** ідэнты́чна
**идентúчность** ідэнты́чнасць *ж.*
**идентúчный** ідэнты́чны
**идеóлог** ідэóлаг *м.*
**идеологúческий аппарáт** ідэалагíчны апарáт
**идеолóгия** ідэалóгія *ж.*;
  **правовáя и.** прававáя ідэалóгія
**иерархúческая классификáция** іерархíчная класіфікáцыя
**иерархúческо-дескрúпторная классификáция** іерархíчна-дэскры́птарная класіфікáцыя
**избирáтельный бюллетéнь** вы́барчы бюлетэ́нь
**избирáтельный учáсток** вы́барчы ўчáстак
**избирáть** выбірáць
**избрáние** выбрáнне *ср.*;
  **единоглáсное и.** аднагалóснае выбрáнне
**úзбранные произведéния** вы́браныя твóры
**извещáть** паведамлáць *(каму)*; апавяшчáць *(каго)*; накáзваць *(каму)*
**извещéние** 1. *(действие)* паведамлéнне *ср.*; апавяшчэ́нне *ср.*; накáзванне *ср.*; 2. *(документ)* паведамлéнне *ср.*;
  **и. о мероприятии (заседáнии, собрáнии)** паведамлéнне аб мерапрыéмстве (пасяджэ́нні, схóдзе);
  **платёжное и.** плацéжнае паведамлéнне;
  **предварúтельное и.** папярэ́дняе паведамлéнне
**извлекáть** *(материалы, цитаты)* выбірáць
**извлечéние** *(выдержка)* *ср.* вы́нятка *ж.*, вы́трымка *ж.*;
  **и. из докумéнта** вы́нятка (вы́трымка) з дакумéнта
**извлечённый** вы́няты; вы́браны
**извлéчь** *(материалы, цитаты)* вы́браць
**извóд** *м. уст.* звод, звóду *м.*, рэдáкцыя *ж.*
**изготóвить** *(произвести)* вы́рабіць, зрабíць; *(подготовить)* падрыхтавáць
**издавáть** выдавáць;
  **и. кнúгу** выдавáць кнíгу;
  **и. распоряжéние** выдавáць распараджэ́нне
**издáние** выдáнне ср.;
  **и. докумéнта** выдáнне дакумéнта;
  **официáльное и.** афіцы́йнае выдáнне;
  **периодúческое и.** перыяды́чнае выдáнне;
  **повремéнное и.** перыяды́чнае выдáнне;
  **спрáвочно-информациóнное и.** давéдачна-інфармацы́йнае выдáнне
**úзданный** вы́дадзены
**издáтель** выдавéц *м.*
**издáтельский договóр** выдавéцкі дагавóр
**издáтельское дéло** выдавéцкая спрáва
**издáтельство** выдавéцтва *ср.*

**издéржка** *ж.* выдáтак, -тку *м.*, *мн.* выдáткі;

**нерационáльные издéржки** нерацыянáльныя выдáткі;

**хозяйственные издéржки** гаспадáрчыя выдáткі

**излагáть** выкладáць; *(выражать)* выкáзваць; *(объяснять)* тлумáчыць; *(передавать)* перадавáць;

**и. в пи́сьменной фóрме** выкладáць (перадавáць) у пісьмóвай фóрме;

**и. мысль** выкáзваць дýмку

**изли́шек** лі́шак, -ку *м.*

**изложéние** *ср.* 1. *(действие)* вы́клад, -ду *м.*, выкладáнне *ср.*; выкáзванне *ср.*; 2. *(пересказ)* перакáз, -зу *м.*; перадáча *ж.*

**излóженный** вы́кладзены; *(выраженный)* вы́казаны

**изменéние** *ср.* змéна *ж.*, змянéнне *ср.*; перамéна *ж.*

**изменённая зáпись** змéнены зáпіс

**изменённый** змéнены; перамéнены

**изменяемость** *ср.* змéннасць *ж.*, змéнлівасць *ж.*

**измерéние** вымярэ́нне *ср.*;

**и. влáжности вóздуха в архивохрани́лище** вымярэ́нне вільгóтнасці павéтра ў архівасхóвішчы

**измери́мый** вымéрны

**измери́тель** вымярáльнік *м.*, вымéрнік *м.*

**измери́тельные систéмы** вымярáльныя сістэ́мы

**измери́тельный** вымярáльны, вымéрны

**измéрить** змéраць, вы́мераць

**измеря́ть** мéраць, вымярáць

**изначáльный** першапачаткóвы, пачаткóвы

**изобличи́тельный докумéнт** выкрывáльны дакумéнт

**изображáть** пакáзваць; адлюстрóўваць; апісваць

**изображéние** *ср.* пакáз, -зу *м.*; адлюстравáнне *ср.*; апісáнне *ср.* ;

**фотографи́ческое и.** фатаграфі́чнае адлюстравáнне

**изобрази́тельная информáция** выяўлéнчая інфармáцыя

**изобрази́тельное искýсство** выяўлéнчае мастáцтва

**изобрази́тельный докумéнт** выяўлéнчы дакумéнт

**изобретáтель** вынахóднік *м.*

**изобретáтельский** вынахóдніцкі

**изобретáтельство** вынахóдніцтва *ср.*

**изобретáть** вынахóдзіць

**изоли́рование** ізалявáнне *ср.*

**изоли́рованность** ізалявáнасць *ж.*

**изоли́рованный** ізалявáны

**изоли́ровать** ізалявáць

**изоля́ция** ізаля́цыя *ж.*

**изречéние** *ср.* выслóўе *ср.*; афары́зм *м.*

**изучáть** вывучáць

**изучéние** вывучэ́нне *ср.*

**изýченность** вы́вучанасць *ж.*

**изъя́тие** *(из употребления)* зня́цце *ср.; (исключение)* выключэ́нне *ср.*

**изъя́ть** *(из употребления)* зняць; *(исключить)* вы́ключыць

**изымáть** *(из употребления)* знімáць; *(исключать)* выключáць

**изыскáние** 1. *(действие)* адшукáнне *ср.*; 2. *(научный поиск)* пóшук, -ку *м.*;

**и. средств** адшукáнне срóдкаў

**изыскáтель** вышукáльнік *м.*, развéдвальнік *м.*

**изыскáтельская документáция** *(по исследованию природных условий и ресурсов для строительства)* вышукáльная (развéдвальная) дакументáцыя

**изыскáтельский** вышукáльны, развéдвальны

**изыскáть** адшукáць; знайсці́;

**и. возмóжность** знáйсці магчы́масць;

**и. резéрвы** адшукáць рэзéрвы

**изыскивать** адшукваць, знаходзіць
**иконопись** *ж.* іканапіс, -су *м.*
**иллюстративность** ілюстрацыйнасць *ж.*
**иллюстративный** ілюстрацыйны
**иллюстрация** ілюстрацыя *ж.*
**иллюстрирование** ілюстраванне *ср.*
**иллюстрированный** ілюстраваны
**иллюстрировать** ілюстраваць
**именная акция** імянная акцыя
**именное удостоверение** імяннóе пасведчанне
**именной архивный каталог** імянны архіўны каталог
**именной указатель** імянны паказальнік
**именование** называнне *ср.*
**иметь** мець;
  **и. силу закона** мець сілу закона
**имидж** імідж *м.*
**импортная лицензия** імпартная ліцэнзія
**импрегнирование** *(механизированный способ реставрации и консервации документов)* імпрэгніраванне *ср.*
**имущественная ответственность** маёмасная адказнасць
**имущественный ущерб** маёмасная страта
**имущество** *ср.* маёмасць *ж.*;
  **и. государственного архива** маёмасць дзяржаўнага архіва
**имя** імя, *род.* імя *і* імені *ср.;*
  **Центральная городская библиотека имени Я. Купалы** Цэнтральная гарадская бібліятэка імя Я. Купалы
**инвентари** *ист.* *(описи владений феодалов)* інвентары *мн.*
**инвентаризационная ведомость** інвентарызацыйная ведамасць
**инвентаризационная комиссия** інвентарызацыйная камісія
**инвентаризационная опись** інвентарызацыйны вопіс
**инвентаризационный** інвентарызацыйны
**инвентаризация** інвентарызацыя *ж.*
**инвентаризированный** інвентарызаваны
**инвентаризировать** інвентарызаваць
**инвентаризованный** інвентарызаваны
**инвентарная карточка** інвентарная картка
**инвентарная книга** інвентарная кніга
**инвентарная опись** інвентарны вопіс
**инвентарный** інвентарны
**инвентарь** інвентар, -ру *м.*
**инвестиционная документация** інвестыцыйная дакументацыя
**инвестиционный** інвестыцыйны
**инвестиция** інвестыцыя *ж.*
**индекс** індэкс *м.*;
  **делопроизводственный и.** справаводны індэкс;
  **и. дела** індэкс справы;
  **и. доходов населения** індэкс даходаў насельніцтва;
  **и. зарплаты** індэкс зарплаты;
  **и. себестоимости** індэкс сабекошту;
  **и. цен** індэкс цэн;
  **классификационный и.** класіфікацыйны індэкс;
  **регистрационный и.** рэгістрацыйны індэкс;
  **текущий и.** бягучы індэкс;
  **трудовой и.** працоўны індэкс
**индексация** індэксацыя *ж.*
**индексирование** індэксаванне *ср.*
**индексный файл** індэксны файл
**индивидуальная карта** індывідуальная карта
**индивидуальная классификация** індывідуальная класіфікацыя
**индивидуальная фотография** індывідуальная фатаграфія
**индивидуальная характеристи-**

ка **архи́вного фо́нда** індывідуа́льная характары́стыка архі́ўнага фо́нду
**индивидуа́льная характери́стика фо́нда в путеводи́теле по фо́ндам архи́ва** індывідуа́льная характары́стыка фо́нду ў даве́дніку па фо́ндах архі́ва
**индивидуа́льное хозя́йство** індывідуа́льная гаспада́рка
**индивидуа́льно-конкре́тное то́ждество** індывідуа́льна-канкрэ́тная то́еснасць
**индивидуа́льный докуме́нт** індывідуа́льны дакуме́нт
**индивидуа́льный план** індывідуа́льны план
**индивидуа́льный труд** індывідуа́льная пра́ца
**инди́кт** *ист.* інды́кт *м.*
**инжене́рно-техни́ческие рабо́тники (ИТР)** інжыне́рна-тэхні́чныя рабо́тнікі (ІТР)
**инициа́л** ініцыя́л *м.*
**инициати́ва** ініцыяты́ва *ж.*
**инициати́вная гру́ппа** ініцыяты́ўная гру́па
**инициати́вная информа́ция архи́ва** ініцыяты́ўная інфарма́цыя архі́ва
**инициати́вность** ініцыяты́ўнасць *ж.*
**инициати́вный докуме́нт** ініцыяты́ўны дакуме́нт
**инициа́тор** ініцыя́тар *м.*
**инициа́торский** ініцыя́тарскі
**инка́ссо** *фин., нескл.* інка́са *ср.*
**инка́ссовый** інка́савы
**иностра́нная валю́та** заме́жная валю́та
**иностра́нная диплома́тия** заме́жная дыпляма́тыя
**иностра́нное ве́домство** заме́жнае ве́дамства
**иностра́нный** заме́жны
**инспекти́рование** інспектава́нне *ср.;*
 **и. архи́вных учрежде́ний** інспектава́нне архі́ўных устано́ў
**инспекти́рованный** інспектава́ны
**инспекти́ровать** інспектава́ць
**инспе́ктор** інспе́ктар *м.*
**инспе́кторский** інспе́ктарскі
**инспе́кция** інспе́кцыя *ж.*;
 **госуда́рственная и.** дзяржа́ўная інспе́кцыя;
 **и. по ка́честву** інспе́кцыя па я́касці;
 **и. труда́** інспе́кцыя пра́цы;
 **санита́рная и.** саніта́рная інспе́кцыя
**инста́нция** інста́нцыя *ж.*
**инструкта́ж** інструкта́ж, -жу́ *м.*
**инструкти́вное письмо́** інструкты́ўнае пісьмо́
**инструкти́вные указа́ния** інструкты́ўныя ўказа́нні
**инструкти́вный** інструкты́ўны
**инструкти́рование** інструктава́нне *ср.*
**инструкти́рованный** інструктава́ны
**инструкти́ровать** інструктава́ць
**инстру́ктор** інстру́ктар *м.*
**инстру́кторский** інстру́ктарскі
**инструкцио́нная ка́рта передово́го о́пыта труда́** інструкцы́йная ка́рта перадаво́га во́пыту пра́цы
**инстру́кция** інстру́кцыя *ж.;*
 **и. по делопроизво́дству** інстру́кцыя па справаво́дству;
 **и. по охра́не труда́** інстру́кцыя па ахо́ве пра́цы;
 **и. по эксплуата́ции ЭВМ** інстру́кцыя па эксплуата́цыі ЭВМ;
 **служе́бная и.** службо́вая інстру́кцыя
**интегри́рованная систе́ма обрабо́тки те́кстов** інтэграва́ная сістэ́ма апрацо́ўкі тэ́кстаў
**интелле́кт** інтэле́кт, -ту *м.*
**интеллектуа́льность** інтэлектуа́льнасць *ж.*
**интеллектуа́льный** інтэлектуа́льны
**интенси́вно** інтэнсі́ўна

3а Зак. 2709

**интенси́вность** інтэнсіўнасць *ж.;*
**и. по́льзования архи́вными докуме́нтами** інтэнсіўнасць карыста́ння архіўнымі дакуме́нтамі;
**и. труда́** інтэнсіўнасць пра́цы
**интенси́вный** інтэнсіўны
**интенсифика́ция** інтэнсіфіка́цыя *ж.;*
**и. произво́дства** інтэнсіфіка́цыя вытво́рчасці
**интенсифици́рованный** інтэнсіфікава́ны
**интенсифици́ровать** інтэнсіфікава́ць
**интерва́л** інтэрва́л, -лу *м.;*
**межстро́чный и.** міжрадко́вы інтэрва́л
**интервью́** інтэрв'ю́ *ср.*
**интере́с** *м.* ціка́васць *ж.;* інтарэ́с, -су *м.*
**интерполя́ция** інтэрпаля́цыя *ж.*
**интерпрета́ция** інтэрпрэта́цыя *ж.;*
**и. докуме́нта** інтэрпрэта́цыя дакуме́нта;
**и. зако́нов** інтэрпрэта́цыя зако́наў
**информати́вность** інфарматыўнасць *ж.;*
**и. архи́вной о́писи** інфарматыўнасць архіўнага во́пісу;
**и. архи́вного фо́нда** інфарматыўнасць архіўнага фо́нду
**информати́вный** інфарматыўны
**информа́тика** інфарма́тыка *ж.*
**информацио́нная ба́за** інфармацыйная ба́за
**информацио́нная ка́рта** інфармацыйная ка́рта
**информацио́нная картоте́ка докуме́нтов** інфармацыйная картатэ́ка дакуме́нтаў
**информацио́нная ка́рточка** інфармацыйная ка́ртка
**информацио́нная потре́бность** інфармацыйная патрэ́бнасць (патрэ́ба)
**информацио́нная слу́жба** інфармацыйная слу́жба
**информацио́нная спра́вка** інфармацыйная даве́дка
**информацио́нно-вычисли́тельный центр (ИВЦ)** інфармацыйна-вылiча́льны цэнтр (ІВЦ)
**информацио́нное бюро́** інфармацыйнае бюро́
**информацио́нное обеспе́чение** інфармацыйнае забеспячэ́нне
**информацио́нное сообще́ние** інфармацыйнае паведамле́нне
**информацио́нно-по́исковая систе́ма архи́ва (ИПСА)** інфармацыйна-по́шукавая сістэ́ма архіва (ІПСА)
**информацио́нно-по́исковый теза́урус** інфармацыйна-по́шукавы тэза́ўрус
**информацио́нно-по́исковый язы́к (ИПЯ)** інфармацыйна-по́шукавая мо́ва (ІПМ)
**информацио́нно-разъясни́тельное письмо́** інфармацыйна-растлумача́льнае пісьмо́
**информацио́нно-спра́вочное обеспе́чение** інфармацыйна-даве́дачнае забеспячэ́нне
**информацио́нный ана́лиз ретроспекти́вной докуме́нтной информа́ции** інфармацыйны ана́ліз рэтраспектыўнай дакуме́нтнай інфарма́цыі
**информацио́нный бюллете́нь** інфармацыйны бюлетэ́нь
**информацио́нный докуме́нт учрежде́ния** інфармацыйны дакуме́нт устано́вы
**информацио́нный запро́с** інфармацыйны за́пыт
**информацио́нный листо́к** інфармацыйны лісто́к
**информацио́нный обзо́р** інфармацыйны агля́д
**информацио́нный подхо́д в архивове́дении** інфармацыйны падыхо́д у архівазна́ўстве
**информацио́нный по́иск** інфармацыйны по́шук

**информациóнный фонд** інфармацыйны фонд

**информáция** інфармáцыя *ж.*;

**библиографúческая и.** бібліяграфічная інфармáцыя;

**вторúчная докумéнтная и. архúвов** другасная дакумéнтная інфармáцыя архіваў;

**входнáя и.** увахóдная інфармáцыя;

**выходнáя и.** выхаднáя інфармáцыя;

**газéтная и.** газéтная інфармáцыя;

**докумéнтная и.** дакумéнтная інфармáцыя;

**звуковáя и.** гукавáя інфармáцыя;

**изобразúтельная и.** выяўлéнчая інфармáцыя;

**инициатúвная и. архúва** ініцыятыўная інфармáцыя архіва;

**и. о дéятельности организáции** інфармáцыя аб дзéйнасці арганізáцыі;

**и. о ревúзиях** інфармáцыя аб рэвізіях;

**и. о совершéнствовании оплáты трудá** інфармáцыя аб удасканáленні аплáты прáцы;

**и. о трудовóй дисциплúне** інфармáцыя аб працóўнай дысцыпліне;

**кодúрованная и.** кадзíраваная інфармáцыя;

**наýчно-техничеcкая и. (НТИ)** навукóва-тэхнічная інфармáцыя (НТІ);

**нормативно-спрáвочная и.** нарматыўна-давéдачная інфармáцыя;

**оперативная (дéйствующая) докумéнтная и.** аператыўная (дзéйная) дакумéнтная інфармáцыя;

**первúчная докумéнтная и. архúва** пéршасная дакумéнтная інфармáцыя архіва;

**ретроспективная докумéнтная и.** рэтраспектыўная дакумéнтная інфармáцыя;

**рефератúвная и.** рэфератыўная інфармáцыя;

**речевáя и.** мóўная інфармáцыя;

**текстовáя и.** тэ́кставая інфармáцыя;

**тéхнико-экономúческая и. (ТЭИ)** тэ́хніка-эканамічная інфармáцыя (ТЭІ);

**учётная и.** улікóвая інфармáцыя

**информбюрó** *нескл.* **(информациóнное бюрó)** інфармбюрó *ср.* (інфармацыйнае бюрó)

**информúрование** інфармавáнне *ср.*

**информúрованность** інфармавáнасць *ж.*

**информúрованный** інфармавáны

**информúровать** інфармавáць

**информúроваться** інфармавáцца

**инфраструктýра** інфраструктýра *ж.*

**ипотéка** *эк. (вид залога)* іпатэ́ка *ж.*

**ИПСА** *см.* **информациóнно-пóисковая систéма архúва**

**ИПЯ** *см.* **информациóнно-пóисковый язы́к**

**искажённый текст** скажóны тэкст

**исключáть** выключáць; вывóдзіць; *(изымать)* знімáць

**исключéние** выключэ́нне *ср.*

**исключённый** вы́ключаны

**исключúть** вы́ключыць; вы́весці; *(изъять)* зняць

**исковóе заявлéние** íскавая заява

**искýсство** мастáцтва *ср.*;

**графúческое и.** графічнае мастáцтва;

**изобразúтельное и.** выяўлéнчае мастáцтва;

**прикладнóе и.** прыкладнóе мастáцтва

**искусствовéдение** мастацтвазнаўства *ср.*

**исполнéние** выканáнне *ср.*;

**во и.** у мэ́тах выкана́ння;
**и. догово́ра** выкана́нне дагаво́ра;
**и. докуме́нта** выкана́нне дакуме́нта;
**и. до́лга** выкана́нне абавя́зку;
**и. зако́нов** выкана́нне зако́наў;
**и. прика́за** выкана́нне зага́да;
**и. служе́бных обя́занностей** выкана́нне службо́вых абавя́зкаў;
**к исполне́нию** да выкана́ння

**испо́лненный докуме́нт** вы́канаы дакуме́нт

**исполни́мость** выкана́льнасць *ж.*

**исполни́мый** выкана́льны

**исполни́тель** выкана́ўца *м.*, выкана́вец *м.;*
**отве́тственный и.** адка́зны выкана́ўца

**исполни́тельная власть** выкана́ўчая ўла́да

**исполни́тельная на́дпись** выкана́ўчы на́дпіс

**исполни́тельная фу́нкция** выкана́ўчая фу́нкцыя

**исполни́тельница** выкана́ўца *ж.*

**исполни́тельно-распоряди́тельный** выкана́ўча-распара́дчы

**исполни́тельность** стара́ннасць *ж.*, спра́ўнасць *ж.*, акура́тнасць *ж.*

**исполни́тельные докуме́нты** выкана́ўчыя дакуме́нты

**исполни́тельный аппара́т** выкана́ўчы апара́т

**исполни́тельный комите́т** выкана́ўчы камітэ́т

**исполни́тельный лист** выкана́ўчы ліст

**исполни́тельный о́рган** выкана́ўчы о́рган

**исполни́тельный рабо́тник** стара́нны (спра́ўны, акура́тны) рабо́тнік

**исполни́тельская дисципли́на** выкана́льніцкая (выкана́ўчая) дысцыпліна

**исполни́тельский архи́вный катало́г** *(содержащий имена исполнителей произведений в звукозаписи)* архі́ўны катало́г выкана́ўцаў

**испо́лнить** вы́канаць

**исполня́ть** выко́нваць

**исполня́ющий** 1. які (што) выко́нвае; 2. *прил.* выко́нваючы; *сущ.* выкана́вец *м.;*
**и.до́лжность** выко́нваючы абавя́зкі (выкана́вец абавя́зкаў);
**и.обя́занности** выко́нваючы абавя́зкі (выкана́вец абавя́зкаў)

**испо́льзование** выкарыста́нне *ср.;*
**и. архи́вных докуме́нтов** выкарыста́нне архі́ўных дакуме́нтаў;
**и. в коры́стных це́лях** выкарыста́нне ў кары́слівых мэ́тах;
**и. документа́льных материа́лов** выкарыста́нне дакумента́льных матэрыя́лаў;
**и. должностно́го положе́ния** выкарыста́нне службо́вага стано́вішча

**испо́льзованный** вы́карыстаны, скарыста́ны; ужы́ты

**испо́льзовать** вы́карыстаць, скарыста́ць; ужы́ць

**испо́льзоваться** выкарысто́ўвацца, скарысто́ўвацца; ужыва́цца

**испра́вить** *(устранить недостатки)* вы́правіць; *(внести поправки)* папра́віць

**испра́виться** вы́правіцца

**исправле́ние** *ср.* 1. выпраўле́нне *ср.;* папра́ўка *ж.;* 2. *(обязанности)* выкана́нне *ср.*

**испра́вленный** вы́праўлены; папра́ўлены

**исправля́ть** 1. *(устранять недостатки)* выпраўля́ць; *(вносить поправки)* пра́віць; 2. *(обязанности)* выко́нваць

**испра́вность** спра́ўнасць *ж.*

**испра́вный** спра́ўны

**испыта́ние** выпрабава́нне *ср.*

**испыта́тельный срок** выпрабава́льны тэ́рмін

**исслéдование** даслéдаванне *ср.;*
**и. докумéнта** даслéдаванне дакумéнта;
**кóмплексное и.** кóмплекснае даслéдаванне
**исслéдованный** даслéдаваны
**исслéдователь** даслéдчык *м.*
**исслéдовательница** даслéдчыца *ж.*
**исслéдовательский** даслéдчы
**исслéдовать** даслéдаваць
**исслéдоваться** даслéдавацца
**истекáть** *(о времени)* мінáць, канчáцца
**истéкший** *(прошедший)* мінýлы; *(о дне)* учарáшні; *(о сроке)* скóнчаны;
**в истéкшем годý** у мінýлым гóдзе
**истечéние** *(окончание)* сканчэ́нне *ср.,* заканчэ́нне *ср.;*
**до истечéния срóка** да сканчэ́ння (заканчэ́ння) тэ́рміну;
**за истечéнием срóка** з прычы́ны сканчэ́ння тэ́рміну;
**и. полномóчий** сканчэ́нне паўнамóцтваў;
**и. срóка трудовóго договóра** заканчэ́нне тэ́рміну працóўнага дагавóра
**и́стинный смысл докумéнта** сапрáўдны сэнс дакумéнта
**истóрик** гістóрык *м.*
**истóрик-архиви́ст** гістóрык-архіві́ст *м.*
**истóрико-летопи́сное произведéние** гістары́чна-летапі́сны твор
**историóграф** гістарыёграф *м.*
**историографи́ческий** гістарыяграфі́чны
**историогрáфия** гістарыяграфія *ж.*
**истори́ческая библиогрáфия** гістары́чная бібліяграфія
**истори́ческая геогрáфия** гістары́чная геаграфія
**истори́ческая метролóгия** гістары́чная метралóгія
**истори́ческая спрáвка** гістары́чная давéдка
**истори́ческая хронолóгия** гістары́чная храналóгія
**истори́чески** гістары́чна
**истори́ческие услóвия** гістары́чныя ўмóвы
**истори́ческий архи́в** гістары́чны архіў
**истори́ческий докумéнт** гістары́чны дакумéнт
**истори́ческий истóчник** гістары́чная крыніца
**истори́ческий обзóр** гістары́чны агля́д
**истори́чность** гістары́чнасць *ж.*
**истóрия** гістóрыя *ж.;*
**дрéвняя и.** старажы́тная гістóрыя;
**и. архи́вного дéла** гістóрыя архіўнай спрáвы;
**и. Белорýссии** гістóрыя Беларýсі;
**и. письмá** гістóрыя пісьмá;
**и. срéдних векóв** гістóрыя сярэ́дніх вякóў;
**нóвая истóрия** нóвая гістóрыя
**истóчник** *м.* крыні́ца *ж.;*
**архи́вный и.** архіўная крыні́ца;
**достовéрный и.** даклáдная крыні́ца;
**истори́ческий и.** гістары́чная крыні́ца;
**истóчники комплектовáния архи́вов** крыні́цы камплектавáння архіваў;
**истóчники комплектовáния вы́борочного приёма** крыні́цы камплектавáння вы́барачнага прыёму;
**истóчники комплектовáния пóлного приёма** крыні́цы камплектавáння пóўнага прыёму;
**истóчники тéкста [изображéния] публикýемого докумéнта** крыні́цы тэ́ксту [адлюстравáння] дакумéнта, які́ публікýецца
**источниковéдение** крыніцазнáўства *ср.*

**источникове́дческая кри́тика** крыніцазна́ўчая кры́тыка
**источникове́дческий подхо́д в архивове́дении** крыніцазна́ўчы падыхо́д у архівазна́ўстве
**истре́бование** выпатрабава́нне *ср.*
**и. докуме́нтов** выпатрабава́нне дакуме́нтаў
**истре́бованный** вы́патрабаваны
**истре́бовать** вы́патрабаваць; запатрабава́ць
**исходи́ть** *(основываться на чём-либо)* зыхо́дзіць, выхо́дзіць;
**и. из достове́рных исто́чников** зыхо́дзіць з дакла́дных крыніц;
**и. из предположе́ния** зыхо́дзіць з меркава́ння
**исхо́дный** зыхо́дны
**исходя́щая** *сущ., канц.* выхо́дная *ж.*
**исходя́щее письмо́** выхо́днае пісьмо́
**исходя́щие бума́ги** выхо́дныя папе́ры
**исходя́щий докуме́нт** выхо́дны дакуме́нт
**исходя́щий но́мер докуме́нта** выхо́дны ну́мар дакуме́нта
**исчерпа́ть** вы́чарпаць
**исче́рпывающе** вычарпа́льна
**исче́рпывающий** *прил.* вычарпа́льны
**исчисле́ние** *ср.* падлі́к, -ку *м.*, падлі́чванне *ср.*, лічэ́нне *ср.;* вылічэ́нне *ср.*, вылі́чванне *ср.*
**исчи́сленный** падлі́чаны; вы́лічаны
**исчи́слить** *(сосчитать)* падлі́чыць; *(высчитать)* вы́лічыць
**исчисля́ть** *(сосчитывать)* падлі́чваць, падліча́ць, лічы́ць; *(высчитывать)* вылі́чваць, вылiча́ць
**ито́г** 1. *(результат)* вы́нік, -ку *м.;* 2. *бухг.* падраху́нак, -нку *м.* ;
**в ито́ге** у вы́ніку; *бухг.* ра́зам;
**подводи́ть ито́ги** падво́дзіць вы́нікі; *бухг.* падво́дзіць падраху́нак
**итого́** ра́зам, усяго́
**ито́говая за́пись** падагульня́льны за́піс
**ито́говый** 1. *(общий)* агу́льны; *бухг.* падраху́нкавы; 2. *(обобщающий)* падагульня́льны
**ИТР** *см.* **инжене́рно-техни́ческие рабо́тники**
**и́щущий** 1. які́ (што) шука́е; 2. *прил.* шука́льны; *(заискивающий)* ліслі́вы, падлі́злівы

 **К** 

**кабала́** кабала́ *ж.;*
**долгова́я к.** даўгава́я кабала́
**кабали́ть** закабаля́ць, кабалі́ць
**каба́льный догово́р** каба́льны дагаво́р
**каби́на** кабі́на *ж.*
**кабине́т**[1] *(помещение)* кабі́нет *м.*
**кабине́т**[2] *(правительство)* кабі́нет *м.;*
**к. мини́стров** кабі́нет міні́страў
**кабине́тный** кабіне́тны
**кабине́тский** кабіне́цкі
**кавы́чки** *мн.* двуко́ссе *ср.;*
**в кавы́чках** у двуко́ссі
**када́стр** када́стр, -ру *м.*
**кадр** *(кино, фото)* кадр *м.;*
**загла́вный к. микрофотоко́пии**

загало́вачны кадр мікрафотако́піі;
**монта́жный к.** манта́жны кадр
**кадрови́к** кадраві́к *м.*
**ка́дровый** ка́дравы
**ка́дры** ка́дры *ед. нет.*;
**к. интеллиге́нции** ка́дры інтэліге́нцыі;
**к. квалифици́рованных рабо́чих** ка́дры кваліфікава́ных рабо́чых;
**национа́льные к.** нацыяна́льныя ка́дры;
**руководя́щие к.** кіраўні́цкія ка́дры;
**техни́ческие к.** тэхні́чныя ка́дры;
**хозя́йственные к.** гаспада́рчыя ка́дры
**календа́рный** каляндáрны
**календа́рь** каляндáр *м.*
**календа́рь-ежедне́вник** каляндáр-штодзённік *м.*
**каллиграфи́чески** каліграфі́чна
**каллиграфи́ческий** каліграфі́чны
**каллигра́фия** каліграфія *ж.*
**ка́лька** ка́лька *ж.*
**кальки́рование** калькава́нне *ср.*
**кальки́рованный** калькава́ны
**кальки́ровать** калькава́ць
**кальќограф** калькóграф *м.*
**калькогра́фия** калькагра́фія *ж.*
**калькули́рованный** калькулява́ны
**калькули́ровать** калькулява́ць
**калькуля́тор** калькуля́тар *м.*
**калькуляцио́нные расчёты** калькуляцы́йныя разлікі
**калькуляцио́нный** калькуляцы́йны
**калькуля́ция** калькуля́цыя *ж.*;
**отчётная к.** справазда́чная калькуля́цыя;
**сме́тная к.** каштары́сная калькуля́цыя
**ка́мера** ка́мера *ж.*;
**дезинфекцио́нная к.** дэзінфекцы́йная ка́мера;
**к. хране́ния** ка́мера захоўвання;
**скры́тая к.** скры́тая ка́мера
**кандида́т** кандыда́т *м.*;
**к. в депута́ты** кандыда́т у дэпута́ты;
**к. истори́ческих нау́к** кандыда́т гістары́чных наву́к;
**к. на вака́нтную до́лжность** кандыда́т на вака́нтную паса́ду
**кандида́тский** кандыда́цкі
**кандидату́ра** кандыдату́ра *ж.*
**канони́ческий текст** канані́чны тэкст
**канцеля́рия** канцыля́рыя *ж.*
**канцеля́рская кни́га** канцыля́рская кніга
**канцеля́рский самоучи́тель** канцыля́рскі самавучы́цель
**канцеля́рский язы́к** канцыля́рская мо́ва
**канцеля́рско-делово́й стиль** канцыля́рска-дзелавы́ стыль
**канцтова́ры (канцеля́рские това́ры)** канцтава́ры *мн.* (канцыля́рскія тава́ры)
**капвложе́ния (капита́льные вложе́ния)** капуклада́нні (капіта́льныя ўклада́нні)
**капита́льно** капіта́льна
**капита́льность** капіта́льнасць *ж.*
**капита́льный** капіта́льны
**каранда́ш** каранда́ш *м.*, ало́вак *м.*
**каранда́шный** каранда́шны, ало́ўкавы
**каре́тка** *техн.* карэ́тка *ж.*
**карикату́ра** карыкату́ра *ж.*
**карикатури́ст** карыкатуры́ст *м.*
**карикату́рный** карыкату́рны
**ка́рта** ка́рта;
**географи́ческая к.** геаграфі́чная ка́рта;
**индивидуа́льная к.** індывідуа́льная ка́рта;
**инструкцио́нная к. передово́го о́пыта труда́** інструкцы́йная ка́рта перадаво́га во́пыту пра́цы;
**информацио́нная к.** інфармацы́йная ка́рта;

**к. фотогра́фии рабо́чего дня** ка́рта фатагра́фіі рабо́чага дня;
**к. хронометража́** ка́рта хронаметражу́;
**к. эски́зов** ка́рта эскі́заў;
**комплекто́вочная к.** камплектава́льная ка́рта;
**лими́тная к. (лими́тно-забо́рная к.)** ліміт́ная ка́рта (лімітна-забо́рная ка́рта);
**перфорацио́нная к. (перфока́рта)** перфарацы́йная ка́рта (перфака́рта);
**регистрацио́нная к.** рэгістрацы́йная ка́рта;
**топографи́ческая ка́рта** тапагра́фічная ка́рта

**ка́рта-замести́тель** ка́рта-замяшча́льнік *ж.*
**карте́ль** *эк.* картэ́ль *м.*
**карти́на** карці́на *ж.*
**карти́нный** карці́нны
**картогра́мма** картагра́ма *ж.*
**карто́граф** карто́граф *м.*
**картографи́рование** картаграфава́нне *ср.*
**картографи́рованный** картаграфава́ны
**картографи́ровать** картаграфава́ць
**картографи́ческая документа́ция** картаграфі́чная дакумента́цыя
**картогра́фия** картагра́фія *ж.*
**картодиагра́мма** картадыягра́ма *ж.*
**карто́н** кардо́н, -ну *м.*
**картони́рование** карданава́нне *ср.*;
**к. дел** карданава́нне спраў

**картоте́ка** картатэ́ка *ж.*;
**автоматизи́рованная к.** аўтаматызава́ная картатэ́ка;
**бухга́лтерская к.** бухга́лтарская картатэ́ка;
**информацио́нная к. докуме́нтов** інфармацы́йная картатэ́ка дакуме́нтаў;
**к. абоне́нтов** картатэ́ка абане́нтаў;
**к. документа́льных материа́лов** картатэ́ка дакумента́льных матэрыя́лаў;
**к. изобрете́ний и рационализа́торских предложе́ний** картатэ́ка вынахо́дак і рацыяналіза́тарскіх прапано́ў;
**к. контро́ля исполне́ния докуме́нтов** картатэ́ка кантро́лю выкана́ння дакуме́нтаў;
**к. по ли́чному соста́ву** картатэ́ка па асабо́вым скла́дзе;
**к. тема́тики иссле́дований** картатэ́ка тэма́тыкі дасле́даванняў;
**к. техни́ческих нови́нок** картатэ́ка тэхні́чных наві́нак;
**к. учёта и регистра́ции** картатэ́ка ўліку і рэгістра́цыі;
**контро́льно-спра́вочная к.** кантро́льна-даве́дачная картатэ́ка;
**системати́ческая к.** сістэматы́чная картатэ́ка;
**темати́ческая к.** тэматы́чная картатэ́ка

**картоте́карь** картатэ́кар *м.*
**картоте́чный шкаф** картатэ́чная ша́фа
**ка́рточка** ка́ртка *ж.*;
**абоне́нтская к.** абане́нцкая ка́ртка;
**визи́тная к.** візі́тная ка́ртка;
**инвента́рная к.** інвента́рная ка́ртка;
**информацио́нная к.** інфармацы́йная ка́ртка;
**к. архи́вной о́писи** ка́ртка архі́ўнага во́пісу;
**к. архи́вного фо́нда** ка́ртка архі́ўнага фо́нду;
**к. системати́ческого катало́га** ка́ртка сістэматы́чнага катало́га;
**к. фо́нда** ка́ртка фо́нду;
**катало́жная к.** катало́жная ка́ртка;
**кодификацио́нная к.** кадыфікацы́йная ка́ртка;

**контро́льная к.** кантро́льная ка́ртка;

**креди́тная к.** крэды́тная ка́ртка;

**ли́чная к.** асабо́вая ка́ртка;

**перфорацио́нная к.** перфарацы́йная ка́ртка;

**почто́вая к.** паштоўка *ж.*;

**регистрацио́нная к.** рэгістрацы́йная ка́ртка;

**регистрацио́нно-контро́льная к. (РКК)** рэгістрацы́йна-кантро́льная ка́ртка (РКК);

**темати́ческая к.** тэматы́чная ка́ртка;

**учётная к.** улі́ковая ка́ртка;

**фо́ндовая к.** фо́ндавая ка́ртка

**ка́рточная архи́вная о́пись** ка́рткавы архі́ўны во́піс

**ка́рточная фо́рма о́писи** ка́рткавая фо́рма во́пісу

**ка́рточный спо́соб систематиза́ции дел** ка́рткавы спо́саб сістэматыза́цыі спраў

**ка́сса** ка́са *ж.*;

**к. взаимопо́мощи** ка́са ўзаемадапамо́гі

**касса́ция** *(выделение документов к уничтожению)* каса́цыя *ж.*

**кассе́та** касе́та *ж.*

**касси́р** касі́р *м.*

**ка́ссовое устро́йство** ка́савы апара́т

**ка́ссовый докуме́нт** ка́савы дакуме́нт

**ка́ссовый о́рдер** ка́савы о́рдэр

**ка́ссовый чек** ка́савы чэк

**катало́г** катало́г *м.*;

**архи́вный к.** архі́ўны катало́г;

**географи́ческий архи́вный к.** геаграфі́чны архі́ўны катало́г;

**журна́льный архи́вный к.** журна́льны архі́ўны катало́г;

**имённо́й архи́вный к.** імянны́ архі́ўны катало́г;

**исполни́тельский архи́вный к.** *(содержащий имена исполнителей произведений в звукозаписи)* архі́ўны катало́г выкана́ўцаў;

**к. архи́вных фо́ндов** катало́г архі́ўных фо́ндаў;

**к. документа́льных материа́лов** катало́г дакумента́льных матэрыя́лаў;

**к. периоди́ческих кинопроизведе́ний** катало́г перыяды́чных кінатво́раў;

**объе́ктный к.** аб'е́ктны катало́г

**предме́тно-темати́ческий к.** прадме́тна-тэматы́чны катало́г

**предме́тный архи́вный к.** прадме́тны архі́ўны катало́г;

**системати́ческий архи́вный к.** сістэматы́чны архі́ўны катало́г;

**систе́мный к.** сістэ́мны катало́г;

**темати́ческий архи́вный к.** тэматы́чны архі́ўны катало́г;

**фи́льмовый архи́вный к.** фі́льмавы архі́ўны катало́г;

**фо́ндовый к.** фо́ндавы катало́г;

**хронологи́ческий архи́вный к.** храналагі́чны архі́ўны катало́г;

**хронологи́ческий к. кинофи́льмов** храналагі́чны катало́г кінафі́льмаў;

**центра́льный фо́ндовый к.** цэнтра́льны фо́ндавы катало́г

**каталогиза́тор** каталагіза́тар *м.*

**каталогиза́ция** каталагіза́цыя *ж.*;

**к. архи́вных докуме́нтов** каталагіза́цыя архі́ўных дакуме́нтаў

**каталогизи́ровать** каталагізава́ць

**каталогизи́роваться** каталагізава́цца

**катало́жная ка́рточка** катало́жная ка́ртка

**катало́жный** катало́жны

**катего́рия** катэго́рыя *ж.*;

**возрастна́я к.** узро́ставая катэго́рыя;

**к. архи́вного фо́нда** катэго́рыя архі́ўнага фо́нду

**каучу́ковый штёмпель** каўчу́кавы штэ́мпель

**ка́чественно** я́касна

**ка́чественность** я́каснасць *ж.*

**ка́чественный** я́касны

**ка́чество** *ср.* я́касць *ж.*;

**в ка́честве** у я́касці;

**делово́е ка́чества** дзелаві́я я́касці;

**к. проду́кции** я́касць праду́кцыі;

**к. това́ров** я́касць тава́раў;

**к. труда́** я́касць пра́цы

КБ *см.* **констру́кторское бюро́**

**квалификацио́нная коми́ссия** кваліфікацы́йная камі́сія

**квалификацио́нный** кваліфікацы́йны

**квалифика́ция** кваліфіка́цыя *ж.*;

**к. догово́ра** кваліфіка́цыя дагаво́ра;

**к. рабо́тников** кваліфіка́цыя рабо́тнікаў

**квалифици́рованный труд** кваліфікава́ная пра́ца

**квалифици́ровать** кваліфікава́ць

**квалифици́роваться** кваліфікава́цца

**кварта́л** кварта́л *м.*

**кварта́льный** кварта́льны

**кварти́рные** *сущ. (деньги)* кватэ́рныя *ед. нет*

**квартиросъёмщик** кватэранайма́льнік *м.*

**квита́нция** *ж.* квіта́нцыя *ж.*, квіто́к *м.*;

**почто́вая к.** паштовая квіта́нцыя (паштовы квіто́к)

**кво́рум** кво́рум, -му *м.*

**кво́та** *эк.* кво́та *ж.*

КЗоТ *см.* **Ко́декс зако́нов о тру́де**

**кинематографи́ческая лёнта** кінематаграфі́чная сту́жка

**кинематогра́фия** кінематагра́фія *ж.*

**киноальмана́х** кінаальмана́х *м.*

**киноаппара́т** кінаапара́т *м.*

**киноаппарату́ра** кінаапарату́ра *ж.*

**киноархи́в** кінаархі́ў *м.*

**кинове́дение** кіназна́ўства *ср.*

**кинове́дческий** кіназна́ўчы

**кинодокуме́нт** кінадакуме́нт *м.*

**кинодокументали́ст** кінадакументалі́ст *м.*

**кинодокументали́стика** кінадакументалі́стыка *ж.*

**киножурна́л** кіначасо́піс *м.*

**киноинформа́ция** кінаінфарма́цыя *ж.*

**кинока́др** кінака́др *м.*

**кинокопирова́льный** кінакапірава́льны

**кинолёнта** кінасту́жка *ж.*

**кинолётопись** *ж.* кінале́тапіс, -су *м.*

**киноо́черк** кінана́рыс *м.*

**киноплёнка** кінаплёнка *ж.*

**кинопрое́ктор** кінапрае́ктар *м.*

**кинопроизведе́ние** *ср.* кінатво́р *м.*;

**периоди́ческое к.** перыяды́чны кінатво́р

**киносъёмочное обору́дование** кіназдыма́льнае абсталява́нне

**киносюжёт** кінасюжэ́т *м.*

**кинотёка** кінатэ́ка *ж.*

**киноустано́вка** кінаўстано́ўка *ж.*

**кинофи́льм** кінафі́льм *м.*

**кинофотофонодокумента́ция** кінафотафонадакумента́цыя *ж.*

**кинохро́ника** кінахро́ніка *ж.*

**кисло́тность** кісло́тнасць *ж.*;

**к. бума́ги** кісло́тнасць папе́ры

**клавиату́ра** клавіяту́ра *ж.*

**кла́виша** кла́віша *ж.*

**класс** клас *м.*;

**к. усло́вной эквивале́нтности ключевы́х слов** клас умо́ўнай эквівале́нтнасці ключавы́х слоў

**классифика́тор** класіфіка́тар *м.*;

**к. информа́ции по ка́драм** класіфіка́тар інфарма́цыі па ка́драх;

**к. (слова́рь) по́исковых направле́ний** *(в ЭВМ)* класіфіка́-

тар (слоўнік) пошукавых напрамкаў

**классификационная схема каталога** класіфікацыйная схема каталога

**классификационный индекс** класіфікацыйны індэкс

**классификация** класіфікацыя *ж.*;

**генетическая к. документов** генетычная класіфікацыя дакументаў;

**десятичная к.** дзесятковая класіфікацыя;

**иерархическая к.** іерархічная класіфікацыя;

**иерархическо-дескрипторная к.** іерархічна-дэскрыптарная класіфікацыя;

**индивидуальная к.** індывідуальная класіфікацыя;

**к. архивных фондов** класіфікацыя архіўных фондаў;

**к. документальных материалов** класіфікацыя дакументальных матэрыялаў

**к. документной информации** класіфікацыя дакументнай інфармацыі;

**к. документов** класіфікацыя дакументаў;

**к. исторических источников** класіфікацыя гістарычных крыніц;

**к. сведений из документальных материалов** класіфікацыя звестак з дакументальных матэрыялаў;

**линейная к.** лінейная класіфікацыя;

**многоаспектная к.** многааспектная класіфікацыя;

**национальная к.** нацыянальная класіфікацыя;

**одноаспектная к.** аднааспектная класіфікацыя;

**отраслевая к.** галіновая класіфікацыя;

**систематическая к. документной информации** сістэматычная класіфікацыя дакументнай інфармацыі;

**уникальная к.** унікальная класіфікацыя;

**фасетная к.** *(многоаспектная классификация документной информации)* фасетная класіфікацыя

**классифицирование** класіфікаванне *ср.*

**классифицировать** класіфікаваць

**классифицироваться** класіфікавацца

**клеевой** клеявы

**клеение** клеенне *ср.*

**клеенный** клеены

**клеить** клеіць

**клей** клей, клею *м.*

**климат** клімат, -ту *м.*;

**к. доверия** клімат даверу;

**морально-психологический к.** маральна-псіхалагічны клімат

**клиринг** *фин. (система безденежных расчётов)* клірынг, -гу *м.*

**клиринговый** *фин.* клірынгавы

**ключевое слово** ключавое слова

**ключевой** ключавы

**книга** кніга *ж.*;

**адресная к.** адрасная кніга;

**актовая к.** актавая кніга;

**инвентарная к.** інвентарная кніга;

**канцелярская к.** канцылярская кніга;

**к. адресов и телефонов** кніга адрасоў і тэлефонаў;

**к. отзывов и предложений** кніга водзываў і прапаноў;

**к. поступлений документов** кніга паступленняў дакументаў;

**к. почёта** кніга пашаны;

**к. регистрации проектов** кніга рэгістрацыі праектаў;

**к. технического контроля** кніга тэхнічнага кантролю;

**к. учёта и описа́ния фонофотодокуме́нтов** кніга ўліку і апіса́ння фонафотадакуме́нтаў;
**к. учёта кинодокуме́нтов** кніга ўліку кінадакуме́нтаў;
**к. учёта микрофи́льмов** кніга ўліку мікрафільмаў;
**к. учёта поступле́ний докуме́нтов** кніга ўліку паступле́нняў дакуме́нтаў;
**к. учёта поступле́ний, страхово́го фо́нда** кніга ўліку паступле́нняў страхаво́га фо́нду;
**к. учёта техни́ческих докуме́нтов** кніга ўліку тэхнічных дакуме́нтаў;
**печа́тная к.** друкава́ная кніга;
**разно́сная к.** разно́сная кніга;
**рукопи́сная к.** рукапісная кніга;
**шнурова́я к.** шнурава́я кніга
**книгове́дение** кнігазна́ўства *ср.*
**книгове́дческий** кнігазна́ўчы
**книгоизда́тель** кнігавыдаве́ц *м.*
**книгоизда́тельский** кнігавыдаве́цкі
**книгопеча́тание** кнігадрукава́нне *ср.*
**книгохрани́лище** кнігасхо́вішча *ср.*
**кни́жка** кніжка *ж.*;
**забо́рная к.** забо́рная (набо́рная) кніжка;
**записна́я к.** запісна́я кніжка;
**зачётная к.** заліко́вая кніжка;
**к. изобрете́ний** кніжка вынахо́дак;
**лимити́рованная че́ковая к.** лімітава́ная чэ́кавая кніжка;
**расчётная к.** разліко́вая кніжка;
**сберега́тельная к.** ашча́дная кніжка;
**трудова́я к.** працо́ўная кніжка
**кни́жная архи́вная о́пись** кніжны архіўны во́піс
**кни́жная гра́фика** кніжная гра́фіка
**кни́жная миниатю́ра** кніжная мініяцю́ра
**кни́жная фо́рма публика́ции** кніжная фо́рма публіка́цыі
**кни́жный** кніжны
**код** код *м.*;
**идентификацио́нный к.** ідэнтыфікацы́йны код;
**цифрово́й к.** лічбавы код
**ко́декс** ко́дэкс *м.*;
**трудово́й к.** працо́ўны ко́дэкс
**Ко́декс зако́нов о труде́ (КЗоТ)** Ко́дэкс зако́наў аб пра́цы (КЗаП)
**кодиколо́гия** кадзікало́гія *ж.*
**кодирова́льный** кадзірава́льны
**коди́рование** кадзіраванне *ср.*;
**к. типовы́х те́кстов** кадзіраванне тыпавы́х тэ́кстаў
**коди́рованная информа́ция** кадзіраваная інфарма́цыя
**коди́рованный** кадзіраваны
**коди́ровать** кадзіраваць
**коди́роваться** кадзіравацца
**кодиро́вщик** кадзірава́льнік *м.*
**кодифика́тор** кадыфіка́тар *м.*
**кодификацио́нная ка́рточка** кадыфікацы́йная ка́ртка
**кодификацио́нный** кадыфікацы́йны
**кодифика́ция** кадыфіка́цыя *ж.*;
**к. пра́ва** кадыфіка́цыя пра́ва;
**нау́чная к.** навуко́вая кадыфіка́цыя
**кодифици́ровать** кадыфікава́ць
**ко́довый** ко́давы
**коленко́р** каленко́р, -ру *м.*
**коленко́ровый** каленко́равы
**коли́чественно** ко́лькасна
**коли́чественное соотноше́ние** ко́лькасныя суадно́сіны
**коли́чественный** ко́лькасны
**коли́чество** *ср.* ко́лькасць *ж.*
**коллегиа́льно** калегія́льна
**коллегиа́льное управле́ние** калегія́льнае кірава́нне
**коллегиа́льность** калегія́льнасць *ж.*;
**к. в руково́дстве** калегія́льнасць у кіраўніцтве
**коллегиа́льный** калегія́льны

**коллéгия** калéгія *ж.*
**коллектив** калектыў *м.*;
**áвторский к.** áўтарскі калектыў
**коллективная жáлоба** калектыўная скáрга
**коллективно** калектыўна
**коллективное заявлéние** калектыўная заява
**коллективность** калектыўнасць *ж.*;
**к. руковóдства** калектыўнасць кіраўніцтва
**коллективный договóр** калектыўны дагавóр
**коллективный зáработок** калектыўны зарабóтак
**коллективный патéнт** калектыўны патэнт
**коллéктор** калéктар *м.*;
**библиотéчный к.** бібліятэчны калéктар
**коллéкторный** калéктарны
**коллекционéр** калекцыянéр *м.*
**коллекционирование** калекцыянавáнне *ср.*
**коллекционировать** калекцыянавáць
**коллекциóнная óпись** калекцыйны вóпіс
**коллекциóнный** калекцыйны
**коллéкция** калéкцыя *ж.*;
**архивная к.** архіўная калéкцыя;
**к. документáльных материáлов** калéкцыя дакументáльных матэрыялаў;
**к. рýкописей (докумéнтов)** калéкцыя рýкапісаў (дакумéнтаў);
**специализированная к.** спецыялізавáная калéкцыя;
**чáстная к.** прывáтная калéкцыя
**колóнка** *ж.* *(столбец)* слупóк *м.*; калóнка *ж.*
**командировáние** камандзіравáнне *ср.*
**командирóванный** камандзіравáны
**командировáть** камандзіравáць
**командирóвка** 1. *(действие)* камандзіравáнне *ср.*, камандзірóўка *ж.*; 2. *(поездка, поручение, удостоверение)* камандзірóўка *ж.*
**командирóвочное удостоверéние** камандзірóвачнае пасвéдчанне
**командирóвочные дéньги** камандзірóвачныя грóшы
**командирóвочный** *сущ.* камандзірóвачны *м.*
**комáндный файл** камáндны файл
**комбинированная (смéшанная) систéма организáции технических документáльных материáлов** камбінавáная (змéшаная) сістэма арганізáцыі тэхнічных дакументáльных матэрыялаў
**комбинированный указáтель** камбінавáны паказáльнік
**комендáнт** камендáнт *м.*
**комендáнтский** камендáнцкі
**комиссионéр** камісіянéр *м.*
**комиссионéрский** камісіянéрскі
**комиссия** камісія *ж.*;
**архивная к.** архіўная камісія;
**аттестациóнная к.** атэстацыйная камісія;
**инвентаризациóнная к.** інвентарызацыйная камісія;
**квалификациóнная к.** кваліфікацыйная камісія;
**к. по вопрóсам трудá и быта** камісія па пытáннях прáцы і быту;
**к. по назначéнию пéнсий** камісія па назначэнні пéнсій;
**к. по охрáне трудá** камісія па ахóве прáцы;
**к. по трудовым спóрам** камісія па працóўных спрэчках;
**конфликтная к.** канфліктная камісія;
**ликвидациóнная к.** ліквідацыйная камісія;
**методическая к.** метадычная камісія;
**оцéночная к.** ацэначная камісія;
**приёмная к.** прыёмная камісія;

**де́нежный н.** грашо́вае налі-
чэ́нне
**начина́ть** пачына́ць, распачына́ць
**начисле́ние** *бухг.* налічэ́нне *ср.;*
**н. за́работной пла́ты** налічэ́нне
зарабо́тнай пла́ты;
**н. проце́нтов** налічэ́нне пра-
цэ́нтаў
**начи́сленный** налі́чаны
**начи́слить** налічы́ць
**начисля́ть** нaліча́ць, налі́чваць
**невы́дача** нявы́дача *ж.*
**невы́плата** нявы́плата *ж.*
**невыполне́ние** невыкана́нне *ср.;*
**н. обяза́тельства** невыкана́нне
абавяза́цельства;
**н. пла́на** невыкана́нне пла́на
**невы́полненный** нявы́кананы
**невыполни́мость** невыкана́ль-
насць *ж.*
**невыполни́мый** невыкана́льны
**негати́в** негаты́ў *м.;*
**н. кинофотодокуме́нта** нега-
ты́ў кінафотадакуме́нта;
**н. тонфи́льма** негаты́ў тан-
фі́льма
**негати́вный** негаты́ўны
**нeго́дность** непрыда́тнасць *ж.*,
непрыго́днасць *ж.*
**неграфлённая о́пись** неграфлёны
во́піс
**недействи́тельный докуме́нт** не-
сапра́ўдны дакуме́нт
**недоброжела́тельно** нядобра-
зычлі́ва; непрыхі́льна
**недоброжела́тельность** нядоб-
разычлі́васць *ж.*; непрыхі́льнасць *ж.*
**недоброжела́тельный** нядобра-
зычлі́вы; непрыхі́льны
**недоброка́чественность** недаб-
рая́каснасць *ж.;*
**н. проду́кции** недабрая́каснасць
праду́кцыі
**недоброка́чественный** недабра-
я́касны
**недобросо́вестно** нядобрасум-
ле́нна
**недобросо́вестность** нядобра-
сумле́ннасць *ж.*
**недобросо́вестный** нядобрасум-
ле́нны
**недове́рие** *ср.* недаве́р'е *ср.*, не-
даве́р, -ру *м.*
**недопла́та** недапла́та *ж.*
**недоплати́ть** недаплаці́ць
**недопла́ченный** недапла́чаны
**недопла́чивание** недапла́чван-
не *ср.*
**недопла́чивать** недапла́чваць
**недоста́ток** *м. (изъян)* зага́на *ж.;*
*(погрешность)* хі́ба *ж.; (недочёт)*
недахо́п, -пу *м.*
**недоста́точно** недастатко́ва, ма́-
ла
**недоста́точность** недастатко́-
васць *ж.*
**недоста́точный** недастатко́вы
**недостаю́щий 1.** яко́га (яко́й) нес-
тае́, яко́га (яко́й) нехапа́е; **2.** *прил.*
адсу́тны
**недостове́рность** недакла́д-
насць *ж.*
**недостове́рный** недакла́дны
**недоуче́сть** недаўлічы́ць
**недоучи́тывать** недаўлі́чваць
**недоучтённый** недаўлічаны
**недочёт** *м.* **1.** *(нехватка суммы)* ня-
ста́ча *ж.;* недаста́ча *ж.;* **2.** *(погреш-
ность)* хі́ба *ж.; (недостаток, изъян)*
недахо́п, -пу *м.*
**недроби́мость** *ж.* недрабле́нне *ср.;*
**н. архи́вного фо́нда** недраб-
ле́нне архі́ўнага фо́нду
**незаве́ренная ко́пия** незаве́раная
ко́пія
**незави́симая газе́та** незале́жная
газе́та
**незави́симое госуда́рство** неза-
ле́жная дзяржа́ва
**незави́симо** незале́жна
**незави́симость** незале́жнасць *ж.*
**незави́симый** незале́жны
**незако́нченное де́ло** незако́нча-
ная спра́ва

**незако́нченный** незако́нчаны

**незарегистри́рованный докуме́нт** незарэгістрава́ны дакуме́нт

**неза́щищённость** неабаро́ненасць *ж.*

**незащищённый** неабаро́нены

**незначи́тельный** нязна́чны; *(небольшой)* невялікі

**неизве́стная ли́чность** невядо́мая асо́ба

**неизме́нно** нязме́нна; заўсёды, заўжды́

**неизме́нный** 1. нязме́нны; непахі́сны; 2. ве́рны

**неизрасхо́дованный** незрасхо́даваны, нявы́даткаваны

**неисполне́ние** невыкана́нне *ср.;*

**н. прика́за** невыкана́нне зага́да;

**н. распоряже́ния** невыкана́нне распараджэ́ння;

**н. реше́ния собра́ния** невыкана́нне рашэ́ння схо́ду

**неисполни́мость** невыкана́льнасць

**неисполни́мый** невыкана́льны

**неиспо́льзование** невыкарыста́нне *ср.*

**неиспо́льзованные резе́рвы** нявы́карыстаныя рэзе́рвы

**неиспо́льзованный о́тпуск** нявы́карыстаны адпачы́нак (во́дпуск)

**неспра́вность** няспра́ўнасць *ж.;*

**неиспра́вности те́кста [изображе́ния] публику́емого докуме́нта** няспра́ўнасці тэ́ксту, [адлюстрава́ння] дакуме́нта, які публіку́ецца

**неиспра́вный** няспра́ўны

**нейтрализа́ция** нейтраліза́цыя *ж.*;

**н. кисло́тности бума́ги** нейтраліза́цыя кісло́тнасці папе́ры

**нейтралите́т** нейтралітэ́т, -ту *м.;*

**госуда́рственный н.** дзяржа́ўны нейтралітэ́т

**нейтра́льное госуда́рство** нейтра́льная дзяржа́ва

**некомпете́нтность** некампетэ́нтнасць ж.

**некомпете́нтный** некампетэ́нтны

**некомплекту́ющийся архи́в** некамплекто́ўны архі́ў (архі́ў са спы́неным камплектава́ннем)

**некомплекту́ющийся архи́вный фонд** некамплекто́ўны архі́ўны фонд (архі́ўны фонд са спы́неным камплектава́ннем)

**некредитоспосо́бность** *фин.* некрэдытаздо́льнасць *ж.;*

**н. учрежде́ния** некрэдытаздо́льнасць устано́вы

**некредитоспосо́бный** некрэдытаздо́льны

**некрити́чески** некрыты́чна

**некрити́ческий** некрыты́чны

**некрити́чность** некрыты́чнасць *ж.*

**некрити́чный** некрыты́чны

**нелега́льная газе́та** нелега́льная газе́та

**ненорми́рованный труд** ненармава́ная пра́ца

**необосно́ванная жа́лоба** неабгрунтава́ная ска́рга

**необосно́ванно** неабгрунтава́на; беспадста́ўна

**необосно́ванное тре́бование** неабгрунтава́нае патрабава́нне

**необосно́ванность** неабгрунтава́насць *ж.;* беспадста́ўнасць *ж.*

**необосно́ванный до́вод** неабгрунтава́ны до́каз (до́вад)

**необрати́мая валю́та** неабара́чальная валю́та

**необходи́мость** неабхо́днасць *ж.*; патрэ́ба *ж.*

**необходи́мый** неабхо́дны

**необъекти́вность** неаб'екты́ўнасць *ж.*

**необъекти́вный** неаб'екты́ўны

**необяза́тельность** неабавязко́васць *ж.*

**необяза́тельный реквизи́т** неабавязко́вы рэквізі́т

**неогра́фия** неагра́фія *ж.*

**неоднокра́тно** неаднаразо́ва, не раз, не адзін раз

**неоднокра́тный** неаднаразо́вы

**неопла́та** неапла́та *ж.;*

**н. чéка** неаплáта чэ́ка
**неоплáченный** неаплáчаны
**неорганизóванность** неарганізавáнасць *ж.*
**неорганизóванный** неарганізавáны
**неосведомлённость** *ж.* 1. *(о чём)* непаінфармавáнасць *ж.; (незнание)* нявéданне *ср. (чаго);* 2. *(в чём)* недасвéдчанасць *ж.*
**неосведомлённый** 1. *(о чём)* непаінфармавáны; 2. *(в чём)* недасвéдчаны
**неосновáтельно** негрунтóўна; *(без оснований)* беспадстáўна
**неосновáтельность** негрунтóўнасць *ж.;* беспадстáўнасць *ж.*
**неосновáтельный дóвод** негрунтóўны дóказ (дóвад)
**неофициáльно** неафіцы́йна
**неофициáльный** неафіцы́йны
**неофóрмленность** неафóрмленасць *ж.;*
**н. документáции** неафóрмленасць дакументáцыі
**неофóрмленный докумéнт** неафóрмлены дакумéнт
**непланомéрность** непланамéрнасць *ж.*
**непланомéрный** непланамéрны
**неплатёжеспосóбность** неплацежаздóльнасць *ж.*
**неплатёжеспосóбный** неплацежаздóльны
**неподготóвленность** непадрыхтавáнасць *ж.*
**неподготóвленный** непадрыхтавáны
**неполáдки** *чаще мн.* непалáдкі
**неполнотá** непаўнатá *ж.*, няпóўнасць *ж.*
**неполноцéнность** непаўнацэ́ннасць *ж.*
**неполноцéнный** непаўнацэ́нны
**непосрéдственно** непасрэ́дна
**непосрéдственность** непасрэ́днасць *ж.*
**непосрéдственный расчёт** непасрэ́дны разлік
**непосрéдственный спóсоб систематизáции дел** непасрэ́дны спóсаб сістэматызáцыі спраў
**непреры́вная рабóта** бесперапы́нная прáца
**непреры́вность** бесперапы́ннасць *ж.;*
**н. трудовóго стáжа** бесперапы́ннасць працóўнага стáжу
**непреры́вный** бесперапы́нны
**неприбы́тие** *ср.* нез'яўлéнне *ср.*, непрыбыццё *ср.*; непрыéзд, -ду *м.*; непрыхóд, -ду *м.;*
**н. на мéсто назначéния** нез'яўлéнне (непрыбыццё) на мéсца прызначэ́ння (назначэ́ння)
**непригóдность** непрыдáтнасць *ж.*, непрыгóднасць *ж.;*
**н. к рабóте** непрыдáтнасць (непрыгóднасць) да прáцы;
**профессионáльная н.** прафесíйная непрыдáтнасць (непрыгóднасць)
**непригóдный** непрыдáтны, непрыгóдны
**непризнáние** непрызнáнне *ср.*
**непри́знанный** непрызнáны
**неприкосновéнность** недатыкáльнасць *ж.;*
**н. вклáда** недатыкáльнасць уклáду;
**н. ли́чности** недатыкáльнасць асóбы
**непрофессионáльность** непрафесíйнасць *ж.*
**непрофессионáльный** непрафесíйны
**непрофили́рующий** *прил.* непрафілю́ючы
**непрóфильные материáлы** няпрóфільныя матэрыя́лы
**непрóфильный фонд** няпрóфільны фонд
**неравнопрáвный договóр** нераўнапрáўны дагавóр

**нераздели́мый** непадзе́льны, нераздзе́льны
**нерациона́льно** нерацыяна́льна
**нерациона́льность** нерацыяна́льнасць *ж.*
**нерациона́льные затра́ты (изде́ржки)** нерацыяна́льныя выда́ткі
**нерента́бельность** *эк.* нерэнта́бельнасць *ж.*
**нерента́бельный** нерэнта́бельны
**несве́дущий** недасве́дчаны
**несвоевре́менно** несвоечасо́ва
**несвоевре́менность** несвоечасо́васць *ж.*
**несвоевре́менный** несвоечасо́вы
**несоблюде́ние** незахава́нне *ср.;* невыкана́нне *ср.;*
  **н. зако́на** невыкана́нне зако́на;
  **н. поря́дка** незахава́нне пара́дку
**несоотве́тственность** неадпаве́днасць *ж.*
**несоотве́тственный** неадпаве́дны
**несоотве́тствие** *ср.* неадпаве́днасць *ж.;*
  **н. занима́емой до́лжности** неадпаве́днасць займа́емай паса́дзе
**несоотве́тствующий** неадпаве́дны
**несостоя́тельность** *(неосновательность)* негрунто́ўнасць *ж.; (необоснованность)* неабгрунтава́насць *ж.; (отсутствие оснований)* беспадста́ўнасць *ж.;*
  **теорети́ческая н.** тэарэты́чная неабгрунтава́насць
**несро́чный докуме́нт** нетэрміно́вы дакуме́нт
**нестаби́льность** нестабі́льнасць *ж.*
**нестаби́льный** нестабі́льны
**нести́** *(выполнять)* не́сці; выко́нваць;
  **н. дежу́рство** не́сці дзяжу́рства (дзяжу́рыць);
  **н. обя́занности** выко́нваць абавя́зкі;
  **н. отве́тственность** не́сці адка́знасць (адка́зваць);
  **н. слу́жбу** не́сці слу́жбу
**нето́чно** недакла́дна
**нето́чность** недакла́днасць *ж.*
**нето́чный** недакла́дны
**нетрудоспосо́бность** непрацаздо́льнасць *ж.*
**нетрудоспосо́бный** непрацаздо́льны
**не́тто** *прил., нескл.* не́та
**неубеди́тельный до́вод** неперакана́льны до́каз (до́вад)
**неукомплекто́ванность** неўкамплектава́насць *ж.;*
  **н. шта́тов** неўкамплектава́насць шта́таў
**неукомплекто́ванный** неўкамплектава́ны
**неуро́чный** *(о работе)* няўро́чны; *(сверхурочный)* звышуро́чны
**неусто́йчивость** няўсто́йлівасць *ж.;* хісткасць *ж.;* зме́нлівасць *ж.*
**неусто́йчивый** няўсто́йлівы; хісткі; зме́нлівы
**неформа́льный** нефарма́льны
**нецелесообра́зность** немэтазго́днасць *ж.*
**нецелесообра́зный** немэтазго́дны
**нешта́тный** нешта́тны, пазашта́тны
**нея́вка** *ж.* нез'яўле́нне *ср.*, няя́ўка *ж.;*
  **н. на рабо́ту** нез'яўле́нне на пра́цу
**нижеизложенный** ніжэйпададзены
**нижена́званный** ніжэйназва́ны
**нижеопи́санный** ніжэйапі́саны
**нижеподписа́вшийся** *прил., офиц.* ніжэйпадпі́саны
**нижепоимено́ванный** *офиц.* ніжэйназва́ны
**нижеприведённый** ніжэйпрыве́дзены
**нижесле́дующий** *прил.* насту́пны; *(нижеизложенный)* ніжэйпада́дзены
**нижеука́занный** ніжэйназва́ны, ніжэйука́заны

**нижеупомя́нутый** ніжэйназва́ны, ніжэйзга́даны, ніжэйпамянёны

**низкока́чественный** нізкая́касны

**низкоопла́чиваемый** нізкаапла́тны

НИР *см.* **нау́чно-иссле́довательская рабо́та**

**нитроплёнка** нітраплёнка *ж.*

**но́вая исто́рия** но́вая гісто́рыя

**новоизбранный** нававы́браны

**новоизданный** нававы́дадзены

**новообразова́вшийся** *прил.* навау́тво́раны

**новообразова́ние** навау́тварэ́нне *ср.*

**новообразо́ванный** навау́тво́раны

**новорождённая** *сущ.* нованаро́джаная *ж.;* немау́ля́ *ср.*

**новорождённый** *прил., сущ.* нованаро́джаны *м.;* немау́ля́ *ср.*

**но́вость** навіна́ *ж.;*

**биржевы́е но́вости** біржавы́я навіны

**номенклату́ра** наменклату́ра *ж.;*

**н. дел** наменклату́ра спраў;

**н. должносте́й** наменклату́ра паса́д;

**н. проду́кции** наменклату́ра праду́кцыі;

**приме́рная (типова́я) н. дел** пры́кладная (тыпава́я) наменклату́ра спраў;

**сво́дная н. дел** зво́дная наменклату́ра спраў

**номенклату́рно-адресова́льное обору́дование** наменклату́рна-адрасава́льнае абсталява́нне

**номенклату́рный** наменклату́рны

**но́мер** ну́мар *м.;*

**архи́вный н.** архі́ўны ну́мар;

**входя́щий н. докуме́нта** ува-хо́дны ну́мар дакуме́нта;

**исходя́щий н. докуме́нта** вы-хо́дны ну́мар дакуме́нта;

**ли́терный н.** лі́тарны ну́мар;

**н. де́ла** ну́мар спра́вы;

**н. страни́цы** ну́мар старо́нкі;

**н. фо́нда** ну́мар фо́нду;

**поря́дковый н.** пара́дкавы ну́мар;

**пропу́щенный н.** прапу́шчаны ну́мар;

**регистрацио́нный н. докуме́нта** рэгістрацы́йны ну́мар дакуме́нта;

**свобо́дный н.** свабо́дны ну́мар

**номина́льная схе́ма классифика́ции дел (докуме́нтов)** наміна́льная схе́ма класіфіка́цыі спраў (дакуме́нтаў)

**номина́льно-хронологи́ческая схе́ма классифика́ции дел (докуме́нтов)** наміна́льна-хранала-гі́чная схе́ма класіфіка́цыі спраў (дакуме́нтаў)

**номина́льный при́знак дел** наміна́льная адзна́ка спраў

**номогра́мма** *(график)* намагра́ма *ж.*

**но́рма** но́рма *ж.;*

**н. вы́работки** но́рма выпрацо́ўкі;

**н. за́работной пла́ты** но́рма зарабо́тнай пла́ты;

**н. обслу́живания** но́рма абслуго́ўвання;

**н. поведе́ния** но́рма паво́дзін;

**но́рмы мора́ли** но́рмы мара́лі;

**но́рмы представи́тельства** но́рмы прадстаўні́цтва;

**но́рмы труда́** но́рмы пра́цы;

**те́хнико-экономи́ческие но́рмы** тэ́хніка-эканамі́чныя но́рмы;

**техни́ческие но́рмы** тэхні́чныя но́рмы;

**трудова́я н.** працо́ўная но́рма

**норма́ль** нарма́ль *ж.*

**нормати́вно-спра́вочная докуме́нта́льная публика́ция** нарматы́ўна-даве́дачная дакумента́льная публіка́цыя

**нормати́вно-спра́вочная информа́ция** нарматы́ўна-даве́дачная інфарма́цыя

**нормати́вность** нарматы́ўнасць *ж.*

**нормати́вные докуме́нты** нарматы́ўныя дакуме́нты

**нормати́вный** нарматы́ўны
**нормати́вы** нарматы́вы *мн.*
**норми́рование** нармава́нне *ср.;*
н. **зарпла́ты** нармава́нне зарпла́ты;
н. **рабо́чего дня** нармава́нне рабо́чага дня;
н. **расхо́дов материа́льных средств** нармава́нне расхо́даў матэрыя́льных сро́дкаў;
н. **труда́** нармава́нне пра́цы
**норми́рованный** нармава́ны
**норми́ровать** нармава́ць
**носи́тель** но́сьбіт *м.;*
н. **информа́ции** но́сьбіт інфарма́цыі
**НОТ** *см.* **нау́чная организа́ция труда́**
**но́та**[1] *муз.* но́та *ж.*
**но́та**[2] *дипл.* но́та *ж;.*
**дипломати́ческая н.** дыпламаты́чная но́та
**нотариа́льная за́пись** натарыя́льны за́піс
**нотариа́льная ко́пия** натарыя́льная ко́пія
**нотариа́льное засвиде́тельствование** натарыя́льнае засве́дчанне
**нотариа́льный** натарыя́льны
**но́тный докуме́нт** но́тны дакуме́нт
**но́у-ха́у** *сущ., нескл.* 1. *(формализованная совокупность знаний)* ноў-хаў; 2. *(объективированный опыт научного исследования)* ноў-хаў
**нра́вственно** мара́льна
**нра́вственность** мара́льнасць *ж.*; мара́ль *ж.*
**нра́вственный долг** мара́льны абавя́зак
**НСА** *см.* **нау́чно-спра́вочный аппара́т**
**НТД** *см.* **нау́чно-техни́ческая документа́ция**
**НТИ** *см.* **нау́чно-техни́ческая информа́ция**
**НТС** *см.* **нау́чно-техни́ческий сове́т**
**нумера́ция** нумара́цыя *ж.;*
н. **листо́в де́ла** нумара́цыя лісто́ў спра́вы
**нумерова́ние** нумарава́нне *ср.*
**нумеро́ванный** нумарава́ны
**нумерова́ть** нумарава́ць
**нумеро́вка** *ж.* нумарава́нне *ср.*, нумаро́ўка *ж.*
**нумизма́тика** нумізма́тыка *ж.*
**нумизмати́ческий** нумізматы́чны

# О

**обвине́ние** 1. абвінава́чанне *ср.;* 2. *(действие)* абвінава́чванне *ср.*
**обвинённый** абвінава́чаны
**обе́денный переры́в** абе́дзенны перапы́нак
**обезли́чение** абязлі́чанне *ср.*
**обезли́ченная систе́ма обозначе́ния техни́ческих документа́льных материа́лов** абязлі́чаная сістэ́ма абазначэ́ння тэхні́чных дакумента́льных матэрыя́лаў
**обезли́ченность** абязлі́чанасць *ж.*
**обезли́чивание** абязлі́чванне *ср.*
**обезли́чка** абязлі́чка *ж.*
**обеспе́чение** забеспячэ́нне *ср.;*
**госуда́рственное социа́льное**

о. дзяржа́ўнае сацыя́льнае забеспячэ́нне;
**информацио́нное о.** інфармацы́йнае забеспячэ́нне;
**информацио́нно-спра́вочное о.** інфармацы́йна-даве́дачнае забеспячэ́нне;
**о. сохра́нности докуме́нтов** забеспячэ́нне захава́насці дакуме́нтаў;
**о. фи́зико-хими́ческой сохра́нности докуме́нтов** забеспячэ́нне фі́зіка-хі́мічнай захава́насці дакуме́нтаў;
**о. физи́ческой сохра́нности докуме́нтов** забеспячэ́нне фі́зі́чнай захава́насці дакуме́нтаў;
**специализи́рованное програ́ммное о.** спецыялізава́нае прагра́мнае забеспячэ́нне
**обеспе́ченность** забяспе́чанасць *ж.*
**обеспе́ченный** забяспе́чаны
**обеспе́чивание** забяспе́чванне *ср.*
**обеспе́чивать** забяспе́чваць
**обеспе́чить** забяспе́чыць
**обеспы́ливание** абяспы́льванне *ср.;*
**о. архи́вных докуме́нтов** абяспы́льванне архі́ўных дакуме́нтаў
**обеспы́ливать** абяспы́льваць
**обеспы́лить** обяспы́ліць
**обесцве́тить** пазба́віць ко́леру, абяско́лерыць
**обесцве́ченный** пазба́ўлены ко́леру, абяско́лераны
**обесцве́чивание** пазбаўле́нне ко́леру, абяско́лерванне
**обесцве́чивать** пазбаўля́ць ко́леру, абяско́лерваць
**обесцве́чиваться** тра́ціць ко́лер, абяско́лервацца
**обесце́нение** абясцэ́ненне *ср.*
**обесце́ненные де́ньги** абясцэ́неныя гро́шы
**обесце́нивание** абясцэ́ньванне *ср.*
**обесце́нивать** абясцэ́ньваць
**обесце́нить** абясцэ́ніць
**обзо́р** агля́д, -ду *м.;*
**аналити́ческий о.** аналіты́чны агля́д;
**информацио́нный о.** інфармацы́йны агля́д;
**истори́ческий о.** гістары́чны агля́д;
**конъюнкту́рный о.** кан'юнкту́рны агля́д;
**о. архи́вного фо́нда** агля́д архі́ўнага фо́нду;
**о. архи́вных докуме́нтов** агля́д архі́ўных дакуме́нтаў;
**о. документа́льных материа́лов** агля́д дакумента́льных матэрыя́лаў;
**темати́ческий о. докуме́нтов** тэматы́чны агля́д дакуме́нтаў
**фина́нсово-экономи́ческий о.** фіна́нсава-эканамі́чны агля́д
**обзо́рный** агля́дны
**облага́ть** абклада́ць
**областно́й сове́т** абласны́ саве́т
**о́бласть 1.** *(администрати́вно-территориальная единица)* во́бласць *ж.;* 2. *перен. (сфера, отрасль)* галіна́ *ж.*
**облигацио́нный** аблігацы́йны
**облига́ция** аблі́гацыя *ж.*
**обложе́ние** *(налог)* абклада́нне *ср.*
**обложи́ть** *(налогом)* аблажы́ць
**обло́жка** во́кладка *ж.;*
**о. де́ла** во́кладка спра́вы
**обме́н** абме́н, -ну *м.;*
**о. во́здуха в архивохрани́лище** абме́н паве́тра ў архівасхо́вішчы
**обме́нный фонд** абме́нны фонд
**обменя́ть** абмяня́ць
**обнару́жение 1.** *(отыскание)* знахо́джанне *ср.;* 2. *(установление)* выяўле́нне *ср.*
**обнару́жить 1.** *(отыскать)* знайсці́; 2. *(установить)* вы́явіць
**обнови́ть** абнаві́ць
**обновле́ние** абнаўле́нне *ср.;*
**о. докуме́нта** абнаўле́нне дакуме́нта
**обновлённый** абно́ўлены

**обновля́ть** абнаўля́ць
**обобща́ть** абагульня́ць
**обобща́ющий докуме́нт** абагульня́льны дакуме́нт
**обобща́ющий заголо́вок** абагульня́льны загало́вак
**обобще́ние** абагульне́нне *ср.*
**обобщённость** абагу́льненасць *ж.*
**обобщи́ть** абагу́льніць
**обозначе́ние** *ср.* 1. *(действие)* абазначэ́нне *ср.;* 2. *(знак)* адзна́ка *ж.*, знак *м.*, 3. *(означение)* азначэ́нне *ср.*
**обозре́ние** *(обзор)* агля́д, -ду *м.*
**обора́чиваемость** *(обращаемость)* абарача́льнасць *ж.;*
 **о. оборо́тных средств** абарача́льнасць абаро́тных сро́дкаў
**оборони́тельный догово́р** абаро́нчы дагаво́р
**оборо́т** *м.* 1. *(обращение)* абаро́т, -ту *м.*, абарачэ́нне *ср.;* 2. *(обратная сторона)* адваро́т, -ту *м.;* 3. *(словесное выражение)* зваро́т, -ту *м.;*
 **внеры́ночный о.** пазары́начны абаро́т;
 **де́нежный о.** грашо́вае абарачэ́нне;
 **о. капита́ла** абаро́т капіта́лу;
 **о. ре́чи** мо́ўны зварот;
 **о. това́ров** абаро́т тава́раў;
 **о. фо́ндов** абаро́т фо́ндаў; ,
 **смо́три на оборо́те** глядзі на адваро́це
**оборо́тная ве́домость** абаро́тная ве́дамасць
**оборо́тный фонд** абаро́тны фонд
**обору́дование** абсталява́нне *ср.;*
 **бумагоре́зальное о.** паперарэ́зальнае абсталява́нне;
 **вспомога́тельное о. для монтажа́ звукоза́писей** дапамо́жнае абсталява́нне для мантажу́ гуказа́пісаў;
 **киносъёмочное о.** кіназдыма́льнае абсталява́нне;
 **номенклату́рно-адресова́льное о.** наменклату́рна-адраса-ва́льнае абсталява́нне;
 **перифери́йное о.** перыферы́йнае абсталява́нне
**обоснова́ние** абгрунтава́нне *ср.;*
 **теорети́ческое о.** тэарэты́чнае абгрунтава́нне;
 **те́хнико-экономи́ческое о. (ТЭО)** тэ́хніка-эканамічнае абгрунтава́нне (ТЭА)
**обосно́ванная жа́лоба** абгрунтава́ная ска́рга
**обосно́ванное реше́ние** абгрунтава́нае рашэ́нне
**обосно́ванный до́вод** абгрунтава́ны до́каз (до́вад)
**обоснова́ть** абгрунтава́ць
**обосо́бить** адасо́біць, аддзяліць
**обособле́ние** адасабле́нне *ср.*, аддзяле́нне *ср.*
**обосо́бленность** адасо́бленасць *ж.*
**обосо́бленный** адасо́блены, аддзе́лены
**обособля́ть** адасабля́ць, аддзяля́ць
**обраба́тывать** *(информацию)* апрацо́ўваць
**обрабо́тка** апрацо́ўка *ж.;*
 **автоматизи́рованная о. да́нных** аўтаматызава́ная апрацо́ўка да́ных;
 **автоматизи́рованная о. те́кстов** аўтаматызава́ная апрацо́ўка тэ́кстаў;
 **ко́мплексная нау́чно-техни́ческая о.**, ко́мплексная навуко́ва-тэхнічная апрацо́ўка;
 **консервацио́нно-профилакти́ческая о.** кансервацы́йна-прафілакты́чная апрацо́ўка;
 **консервацио́нно-реставрацио́нная о. кинодокуме́нтов и микрофи́льмов** кансервацы́йна-рэстаўрацы́йная апрацо́ўка кінадакуме́нтаў і мікрафі́льмаў
 **нау́чно-техни́ческая о. докумен́тальных материа́лов** навуко́ва-тэхні́чная апрацо́ўка дакумента́льных матэрыя́лаў;
 **первонача́льная (экспедици-**

**о́нная) о.** першапачатко́вая (экспедыцы́йная) апрацо́ўка;

**электро́нная о. информа́ции** электро́нная апрацо́ўка інфарма́цыі

**о́браз** во́браз *м.;*

**по́исковый о. докуме́нта** по́шукавы во́браз дакуме́нта;

**по́исковый о. фо́нда** по́шукавы во́браз фо́нду

**образе́ц** узо́р, -ру *м.*

**о́бразное выраже́ние** во́бразны вы́раз

**образова́ние**[1] *ср.* 1. *(создание)* утварэ́нне *ср.*, стварэ́нне *ср.; (составление) склада́нне ср.;* 2. фармірава́нне *ср.*; арганіза́цыя *ср. (основание)* заснава́нне *ср.*

**образова́ние**[2] *ср.* адука́цыя *ж.; (просвещение)* асве́та *ж.;*

**архивове́дческое о.** архівазна́ўчая адука́цыя

**образо́ванность** адукава́насць *ж.*

**обрати́мая валю́та** абарача́льная валю́та

**обрати́мость** абарача́льнасць *ж.*

**обрати́мый позити́в** абарача́льны пазіты́ў

**обра́тная сторона́ листа́ докуме́нта** адваро́тны бок ліста́ дакуме́нта

**обра́тный а́дрес** зваро́тны а́драс

**обраще́ние** 1. *(просьба, призыв)* зваро́т, -ту *м.; (документ)* адо́зва *ж.;* 2. *(процесс оборота)* абарачэ́нне *ср.;*

**ве́ксельное о.** вэ́ксальнае абарачэ́нне;

**о. гра́ждан в учрежде́ния** зваро́т грамадзя́н ва ўстано́вы;

**о. изображе́ния** абарачэ́нне адлюстрава́ння;

**повто́рное о. граждани́на** паўто́рны зваро́т грамадзя́ніна

**обсле́дование** абсле́даванне *ср.*

**обсле́дованность** абсле́даванасць *ж.*

**обсле́дованный** абсле́даваны

**обсле́дователь** абсле́давальнік *м.*

**обсле́довательский** абсле́давальніцкі

**обсле́довать** абсле́даваць

**обслу́живание** абслуго́ўванне *ср.;*

**абоне́нтное о.** абане́нтнае абслуго́ўванне;

**нау́чно-информацио́нное о.** навуко́ва-інфармацы́йнае абслуго́ўванне

**обслу́живать** абслуго́ўваць

**обслу́живающий персона́л** абслуго́вы персана́л

**обслужи́ть** абслужы́ць

**обсуди́ть** абмеркава́ць

**обсужда́ть** абмярко́ўваць

**обсужде́ние** абмеркава́нне *ср.*

**обходно́й лист (листо́к)** абхо́дны ліст (лісто́к)

**о́бщая амни́стия** агу́льная амні́стыя

**о́бщая дове́ренность** агу́льная даве́ранасць

**общегосуда́рственная автоматизи́рованная систе́ма (ОГАС)** агульнадзяржа́ўная аўтаматызава́ная сістэ́ма (АДАС)

**о́бщее управле́ние** агу́льнае кірава́нне

**общенау́чный подхо́д в архивове́дении** агульнанавуко́вы падыхо́д у архівазна́ўстве

**общеобразова́тельный у́ровень** агульнаадукацы́йны ўзро́вень

**обще́ственная до́лжность** грама́дская паса́да

**обще́ственное бюро́ экономи́ческого ана́лиза** грама́дскае бюро́ эканамі́чнага ана́лізу

**обще́ственное возде́йствие** грама́дскае ўздзе́янне

**обще́ственное мне́ние** грама́дская ду́мка

**обще́ственное порица́ние** грама́дскае ганьбава́нне

**обще́ственное устро́йство** грама́дскі лад (пара́дак)

**обще́ственное учрежде́ние** грама́дская ўстано́ва

**общественные условия** грамадскія ўмовы
**общественные устои** грамадскія асновы
**общественный** грамадскі
**общество** *ср.* 1. грамадства *ср.;* 2. *(организация)* таварыства *ср.,* суполка *ж.;* 3. *(компания)* таварыства *ср.,* кампанія *ж.;* 4. грамада *ж.,* суполка *ж.; ист.* вобшчаства *ср.;*
**акционерное о.** акцыянернае таварыства;
**коммандитное о.** *(вид хозяйственного объединения)* камандзітнае таварыства
**общий отдел** агульны аддзел
**общий указатель** агульны паказальнік
**объединение** аб'яднанне *ср.*
**объединённый архивный фонд** аб'яднаны архіўны фонд
**объединённый ведомственный архив** аб'яднаны ведамасны архіў
**объединительный** аб'яднальны
**объединить** аб'яднаць
**объединять** аб'ядноўваць
**объединяющий** аб'яднальны
**объект** аб'ект *м.*
**объективность** аб'ектыўнасць *ж.*
**объективный фактор** аб'ектыўны фактар
**объектная смета** аб'ектны каштарыс
**объектно-марочная система организации технических документальных материалов** аб'ектна-марачная сістэма арганізацыі тэхнічных дакументальных матэрыялаў
**объектный каталог** аб'ектны каталог
**объём** аб'ём, -му *м.*
**объёмистость** аб'ёмістасць *ж.*
**объёмность** аб'ёмнасць *ж.*
**объёмный** аб'ёмны
**объявление** *ср.* аб'ява *ж.*
**объяснение** тлумачэнне *ср.*
**объяснительная записка** тлумачальная запіска
**объяснить** растлумачыць
**объяснять** тлумачыць, растлумачваць
**обязанность** *ж.* абавязак, -зку *м.;*
**служебные обязанности** службовыя абавязкі
**обязательное решение** абавязковае рашэнне
**обязательный реквизит** абавязковы рэквізіт
**обязательство** абавязацельства *ср.;*
**заёмное о.** пазыковае абавязацельства;
**залоговое о.** закладное абавязацельства;
**платёжное о.** плацежнае абавязацельства;
**срочное о.** тэрміновае абавязацельства
**обязать** абавязаць
**обязывать** абавязваць
**ОГАС** *см.* **общегосударственная автоматизированная система**
**оглавление** *ср.* змест, зместу *м.*
**огнетушитель** вогнетушыцель *м.*
**оговорка** 1. *(замечание)* агаворка *ж.;* 2. *(обмолвка)* абмоўка *ж.,* памылка *ж.*
**оговорочный** агаворачны
**ограничение** абмежаванне *ср.*
**ограниченность** абмежаванасць *ж.*
**ограниченный** абмежаваны
**ограничивание** абмяжоўванне *ср.*
**ограничитель** абмежавальнік *м.*
**ограничительные даты** абмежавальныя даты
**ограничительный тариф** абмежавальны тарыф
**ограничить** абмежаваць
**одинаковость** аднолькавасць *ж.*
**одинаковый** аднолькавы
**одноаспектная классификация** аднааспектная класіфікацыя
**одновременно** адначасова

**одноро́дный** аднаро́дны
**односторо́нний догово́р** аднабако́вы дагаво́р
**односторо́нность** аднабако́васць *ж.*
**однoти́пность** аднаты́пнасць *ж.*
**однoти́пный** аднаты́пны
**одобре́ние** ухвале́нне *ср.*, адабрэ́нне *ср.*
**одо́бренный** ухва́лены, адо́браны
**одобри́тельно** стано́ўча, пахва́льна
**одобри́тельный** стано́ўчы, пахва́льны
**одо́брить** *(разрешить)* адо́брыць, ухваліць
**одобря́ть** *(разрешать)* адо́брываць, ухваля́ць
**означа́ть 1.** *(значить)* адзнача́ць, **2.** абазнача́ць
**окла́д** акла́д, -ду *м.;*
  **годово́й о.** гадавы́ акла́д;
  **должностно́й о.** службо́вы акла́д;
  **ме́сячный о.** ме́сячны акла́д;
  **сме́тный о.** каштары́сны акла́д
**оконча́ние** *ср.* **1.** *(действие)* заканчэ́нне *ср.*, сканчэ́нне *ср.;* **2.** *(конец)* кане́ц *м.*
**оконча́тельный расчёт** канчатко́вы разлі́к
**окружа́ющая среда́** навако́льнае асяро́ддзе
**операти́вная (де́йствующая) докуме́нтная информа́ция** аператы́ўная (дзе́йная) дакуме́нтная інфарма́цыя
**операти́вная сво́дка** аператы́ўная зво́дка
**операти́вное управле́ние** аператы́ўнае кірава́нне
**операти́вно-техни́ческий** аператы́ўна-тэхні́чны
**операти́вный отчёт** аператы́ўная справазда́ча
**опера́тор** апера́тар *м.*
**опера́ция** апера́цыя *ж.;*
  **биржева́я о.** біржава́я апера́цыя;
  **фина́нсово-расчётная о.** фіна́нсава-разліко́вая апера́цыя;
  **хозя́йственная о.** гаспада́рчая апера́цыя;
  **эмиссио́нная о.** эмісі́йная апера́цыя
**опеча́тать** апяча́таць
**опеча́тка** *ж.* памы́лка дру́ку
**опеча́тывать** апяча́тваць
**описа́ние** апіса́нне *ср.;*
  **библиографи́ческое о.** бібліяграфі́чнае апіса́нне;
  **группово́е о. докуме́нтов при каталогиза́ции** групаво́е апіса́нне дакуме́нтаў пры каталагіза́цыі;
  **дифференци́рованное о. архи́вных докуме́нтов** дыферэнцы́раванае апіса́нне архі́ўных дакуме́нтаў;
  **о. де́ла** апіса́нне спра́вы;
  **о. документа́льных материа́лов** апіса́нне дакумента́льных матэрыя́лаў;
  **подокуме́нтное о. на като́жной ка́рточке** падакуме́нтнае апіса́нне на катало́жнай ка́ртцы;
  **поедини́чное о. докуме́нтов на катало́жной ка́рточке** паадзі́нкавае апіса́нне дакуме́нтаў на катало́жнай ка́ртцы;
  **темати́ческое о.** тэматы́чнае апіса́нне;
  **техни́ческое о.** тэхні́чнае апіса́нне
**описа́тельная статья́** апіса́льны арты́кул
**описа́тельность** апіса́льнасць *ж.*
**опи́ска** апі́ска *ж.*
**о́пись** *ж.* во́піс, -су *м.;*
  **архи́вная о.** архі́ўны во́піс;
  **библиографи́ческая о.** бібліяграфі́чны во́піс;
  **вну́тренняя о.** уну́траны во́піс;

**внутренняя о. фотоальбо́ма** унутраны во́піс фотаальбо́ма;
**графлёная о.** графлёны во́піс;
**зако́нченная о.** зако́нчаны во́піс;
**идеа́льная о. архи́вного фо́нда** ідэа́льны во́піс архіўнага фо́нду;
**инвентаризацио́нная о.** інвентарызацыйны во́піс;
**инвента́рная о.** інвента́рны во́піс;
**ка́рточная архи́вная о.** ка́рткавы архіўны во́піс;
**кни́жная архи́вная о.** кніжны архіўны во́піс;
**коллекцио́нная о.** калекцыйны во́піс;
**листова́я архи́вная о.** ліставы архіўны во́піс;
**неграфлёная о.** неграфлёны во́піс;
**о. дел по ли́чному соста́ву** во́піс спраў па асабо́вым скла́дзе;
**о. дел постоя́нного хране́ния** во́піс спраў пастая́ннага захо́ўвання
**о. документа́льных материа́лов** во́піс дакумента́льных матэрыя́лаў;
**о. докуме́нтов** во́піс дакуме́нтаў;
**о. киносъёмок** во́піс кіназдымак;
**о. микрофи́льмов** во́піс мікрафільмаў;
**о. осо́бо це́нных дел** во́піс асабліва кашто́ўных спраў;
**о. прое́кта** во́піс праекта;
**о. страхово́го фо́нда** во́піс страхаво́га фо́нду;
**реа́льная о. архи́вного фо́нда** рэа́льны во́піс архіўнага фо́нду;
**сво́дная о.** зво́дны во́піс;
**сда́точная о.** зда́тачны во́піс;
**системати́ческая о.** сістэматычны во́піс;
**сопроводи́тельная о.** суправаджа́льны во́піс;
**сумма́рная о.** сума́рны во́піс;
**темати́ческая о.** тэматычны во́піс;
**хронологи́ческая о.** храналагічны во́піс
**о́пись-распи́ска** во́піс-распіска *ж.*
**опла́та** апла́та *ж.;*
**повреме́нная о.** пачасо́вая апла́та
**оплати́ть** аплаціць
**опла́чиваемый о́тпуск** апла́тны во́дпуск
**опла́чивание** апла́чванне *ср.*
**опла́чивать** апла́чваць
**оповести́тельный** апавяшча́льны; абвяшча́льны
**оповести́ть** апавясціць *(каго)*; абвясціць *(каму)*; паве́даміць *(каму)*
**оповеща́ть** апавяшча́ць *(каго)*; абвяшча́ць *(каму што)*; паведамля́ць *(каму)*
**оповеще́ние** апавяшчэ́нне *ср.;* абвяшчэ́нне *ср.;* паведамле́нне *ср.*
**оповещённый** апаве́шчаны; абве́шчаны; паве́дамлены
**опозда́ние** спазне́нне *ср.*
**оправда́тельный докуме́нт** апраўда́льны дакуме́нт
**определе́ние** *ср.* 1. *(действие)* вызначэ́нне *ср.;* устанаўле́нне *ср.;* 2. *(формулировка)* азначэ́нне
**определённо** 1. *(точно)* пэ́ўна; 2. *(безусловно)* безумо́ўна, бясспрэ́чна, напэ́ўна
**определённость** пэ́ўнасць *ж.*, выра́знасць *ж.*, акрэ́сленасць *ж.*, дакла́днасць *ж.*
**определённый** 1. *(установленный)* вызначаны; 2. *(сформулированный)* азна́чаны, акрэ́слены; 3. *(точный)* дакла́дны, выра́зны; 4. *(явный, очевидный)* пэ́ўны, відаво́чны; *(безусловный)* безумо́ўны, бясспрэ́чны
**определи́тель** *(справочник)* вызнача́льнік *м.*

**определи́ть** вы́значыць

**опро́с** *м.* апыта́нне *ср.*

**опро́сный лист** апыта́льны ліст

**оптимиза́ция** аптыміза́цыя *ж.;*

**о. соста́ва и содержа́ния ГАФ** аптымізацыя скла́ду і зме́сту ДАФ

**опти́ческая пло́тность те́кста [изображе́ния] докуме́нта** апты́чная шчы́льнасць тэ́ксту [адлюстрава́ння] дакуме́нта

**опубликова́ние** апублікава́нне *ср.;*

**о. докуме́нтов** апублікава́нне дакуме́нтаў

**о́пыт** 1. во́пыт, -ту *м.;* 2. до́след, -ду *м.*

**оргавтома́т (организацио́нный автома́т)** аргаўтама́т *м.* (арганізацы́йны аўтама́т)

**о́рган** о́рган *м.;*

**архи́вные о́рганы** архі́ўныя о́рганы;

**вы́сший о.** вышэ́йшы о́рган;

**исполни́тельный о.** выкана́ўчы о́рган;

**ме́стный о.** мясцо́вы о́рган;

**о. управле́ния** о́рган кірава́ння;

**отраслево́й о.** галіно́вы о́рган;

**хозя́йственные о́рганы** гаспада́рчыя о́рганы;

**центра́льный о.** цэнтра́льны о́рган

**организацио́нная фу́нкция** арганізацы́йная фу́нкцыя

**организацио́нно-распоряди́тельная документа́ция (ОРД)** арганізацы́йна-распара́дчая дакумента́цыя (АРД)

**организацио́нно-распоряди́тельный докуме́нт** арганізацы́йна-распара́дчы дакуме́нт

**организацио́нно-техни́ческая документа́ция** арганізацыйна-тэхнічная дакумента́цыя

**организацио́нный докуме́нт** арганізацы́йны дакуме́нт

**организацио́нный комите́т** арганізацы́йны камітэ́т

**организа́ция** арганіза́цыя *ж.;*

**нау́чная о. труда́ (НОТ)** навуко́вая арганіза́цыя пра́цы (НАП)

**о. докуме́нтов в архи́ве** арганіза́цыя дакуме́нтаў у архіве

**о. докуме́нтов в делопроизво́дстве** арганіза́цыя дакуме́нтаў у справаво́дстве

**о. испо́льзования архи́вных докуме́нтов** арганіза́цыя выкарыста́ння архі́ўных дакуме́нтаў;

**хозя́йственная о.** гаспада́рчая арганіза́цыя

**организо́ванная гру́ппа** арганізава́ная гру́па

**оргте́хника (организацио́нная те́хника)** аргтэ́хніка *ж.* (арганізацы́йная тэ́хніка)

**ОРД** *см.* **организацио́нно-распоряди́тельная документа́ция**

**о́рдер** о́рдэр *м.;*

**мемориа́льный о.** *бухг.* мемарыя́льны о́рдэр;

**прихо́дно-расхо́дный о.** прыхо́дна-расхо́дны о́рдэр;

**прихо́дный ка́ссовый о.** прыхо́дны ка́савы о́рдэр;

**расхо́дный ка́ссовый о.** расхо́дны ка́савы о́рдэр

**оригина́л** арыгіна́л *м.;*

**граммофо́нный о.** грамафо́нны арыгіна́л;

**о. граммофо́нной пласти́нки** арыгіна́л грамафо́ннай пласці́нкі;

**о. докуме́нта** арыгіна́л дакуме́нта;

**о. констру́кторского докуме́нта** арыгіна́л канстру́ктарскага дакуме́нта

**оригина́л-маке́т** *(книги, брошюры)* арыгіна́л-маке́т *м.*

**оригина́льность** арыгіна́льнасць *ж.*

**орна́мент** арна́мент, -ту *м.*

**осведоми́тель** паведамля́льнік *м.*

**осведоми́тельный** паведамля́льны

**осве́домить** паве́даміць *(каму),* інфармава́ць *(каго)*

**освéдомиться** запытáцца, давéдацца
**осведомлéние** паведамлéнне *ср.*, інфармавáнне *ср.*
**осведомлённость** *ж.* 1. вéданне *ср.*, паінфармавáнасць *ж.*; 2. дасвéдчанасць
**осведомля́ть** паведамля́ць *(каму)*, інфармавáць *(каго)*
**осведомля́ться** пытáцца, давéдвацца
**освободи́ть** вы́зваліць, звóльніць
**освобождáть** вызваля́ць, звальня́ць
**освобождéние** *(от должности)* вызвалéнне *ср.*, звальнéнне *ср.*
**осмáтривать** аглядáць
**осмóтр** аглядз, -ду *м.*;
**техни́ческий о.** тэхнічны агля́д
**осмóтренный** аглéджаны
**осмотрéть** аглéдзець
**осмóтровый** агля́дны, аглядáльны
**оснасти́ть** аснасціць
**оснáстка** аснáстка *ж.*
**оснащáть** аснашчáць
**оснащéние** аснашчэ́нне *ср.*
**оснóва** аснóва *ж.*
**основáние** *ср.* 1. *(действие)* заснавáнне *ср.*; 2. *(основа)* аснóва *ж.*; 3. *(причина)* падстáва *ж.*
**основáтельный дóвод** грунтóўны дóказ (дóвад)
**основнáя дóлжность** аснóўная пасáда
**основнáя зарплáта** аснóўная зарплáта
**основнóй тари́ф** аснóўны тары́ф
**основнóй текст** аснóўны тэкст
**основны́е положéния книги [докумéнта]** аснóўныя палажэ́нні кнігі [дакумéнта]
**осóбенность** асаблівасць *ж.*;
**дипломати́ческая о. докумéнта** дыпламаты́чная асаблівасць дакумéнта;
**палеографи́ческая о. докумéнта** палеаграфічная асаблівасць дакумéнта;
**худóжественная о. докумéнта** мастáцкая асаблівасць дакумéнта;
**языковáя о. докумéнта** мóўная асаблівасць дакумéнта
**осóбо цéнное дéло (ОЦД)** асабліва каштóўная спрáва (АКС)
**осóбо цéнный докумéнт** асабліва каштóўны дакумéнт
**осóбое мнéние** асóбная дýмка
**осóбый отдéл** асóбы аддзéл
**осóбый режи́м кредитовáния** асóбы рэжы́м крэдытавáння
**остáток** астáтак, -тку *м.*;
**о. средств** астáтак срóдкаў
**осуждéние** *(порицание)* ганьбавáнне *ср.*, асуджэ́нне *ср.*
**осуществи́ть** ажыццявіць, здзéйсніць
**осуществлéние** ажыццяўлéнне *ср.*, здзяйснéнне *ср.*
**осуществлённый** ажыццёўлены, здзéйснены
**осуществля́ть** ажыццяўля́ць, здзяйсня́ць
**осциллогрáмма** асцылагрáма *ж.*
**отбéливание** адбéльванне *ср.*;
**о. бумáги** адбéльванне папéры
**отбéливать** адбéльваць
**отбели́ть** адбяліць
**отбóр** адбóр, -ру *м.*;
**о. докумéнтов для опубликовáния** адбóр дакумéнтаў для апублікавáння
**отбóрочный спи́сок** адбóрачны спіс
**отвéт** *м.* 1. адкáз, -зу *м.*; 2. *(ответственность)* адкáзнасць *ж.*;
**привлекáть к отвéту** прыцягваць да адкáзнасці
**отвéтное письмó** пісьмó ў адкáз
**отвéтный докумéнт** дакумéнт у адкáз
**отвéтственная дóлжность** адкáзная пасáда

**отве́тственное лицо́** адка́зная асо́ба

**отве́тственность** адка́знасць *ж.;*

**должностна́я о.** службо́вая адка́знасць;

**иму́щественная о.** маёмасная адка́знасць;

**материа́льная о.** матэрыя́льная адка́знасць

**отве́тственный исполни́тель** адка́зны выкана́ўца

**отво́д** *(заявление)* адво́д, -ду *м.*

**отде́л** аддзе́л *м.;*

**администрати́вный о.** адміністрацы́йны аддзе́л;

**архи́вный о. исполко́ма** архі́ўны аддзе́л выканка́ма;

**о́бщий о.** агу́льны аддзе́л;

**осо́бый о.** асо́бы аддзе́л;

**о. за́писи а́ктов гражда́нского состоя́ния (ЗАГС)** аддзе́л за́пісу а́ктаў грамадзя́нскага ста́ну (ЗАГС);

**о. ка́дров** аддзе́л ка́драў;

**о. организа́ции труда́ и за́работной пла́ты** аддзе́л арганіза́цыі пра́цы і зарабо́тнай пла́ты;

**о. техни́ческого контро́ля (ОТК)** аддзе́л тэхні́чнага кантро́лю (АТК);

**па́спортный о.** па́шпартны аддзе́л;

**пла́новый о.** пла́навы аддзе́л;

**произво́дственно-техни́ческий о.** вытво́рча-тэхні́чны аддзе́л;

**рукопи́сный о.** рукапі́сны аддзе́л

**отделе́ние** аддзяле́нне *ср.;*

**почто́вое о.** пашто́вае аддзяле́нне

**отде́льный** асо́бны

**о́тзыв** *(оценка, мнение)* во́дзыў, -зыву *м.;*

**о. на изда́ние** во́дзыў на выда́нне;

**о. на нау́чную рабо́ту** во́дзыў на навуко́вую пра́цу;

**о. на номенклату́ру** во́дзыў на наменклату́ру;

**о. на станда́рты** во́дзыў на станда́рты;

**по о́тзывам това́рищей** на ду́мку тава́рышаў

**отзыва́ть** *(с должности) офиц.* адкліка́ць

**ОТК** *см.* **отде́л техни́ческого контро́ля**

**отка́з** *м. (действие)* адмо́ва *ж.*, адмаўле́нне *ср.*

**отка́зывать** адмаўля́ць

**о́тклик** во́дгук, -ку *м.;*

**о́тклики в печа́ти** во́дгукі ў дру́ку

**открепи́тельный тало́н** адмацава́льны тало́н

**откры́тка** пашто́ўка *ж.*, адкры́тка *ж.*

**откры́тое голосова́ние** адкры́тае галасава́нне

**откры́тое заседа́ние** адкры́тае пасяджэ́нне

**откры́тые вы́боры** адкры́тыя вы́бары

**откры́тый архи́в** адкры́ты архі́ў

**откры́тый архи́вный фонд** адкры́ты архі́ўны фонд

**отличи́тельный** адме́тны, характэ́рны

**отме́на** адме́на *ж.; (закона, решения)* скасава́нне *ср.*

**отмени́ть** адмяні́ць; *(закон, решение)* скасава́ць

**отменя́ть** адмяня́ць; *(закон, решение)* касава́ць

**отме́тить** адзна́чыць

**отме́тка** адзна́ка *ж.;*

**о. в па́спорте** адзна́ка ў па́шпарце;

**о. о завере́нии ко́пии** адзна́ка аб засве́дчанні ко́піі

**отмеча́ть** адзна́чаць

**отноше́ние** *ср.* 1. *(официальное письмо)* адно́сіна *ж.;* 2. *(общение, связи)* адно́сіны *только мн.;*

**присла́ть о.** прысла́ць адно́сіну;

**трудовы́е отноше́ния** працо́ўныя адно́сіны

**отосла́ть** *(по почте)* адасла́ць, адпра́віць

**отпеча́ток** адбі́так *м.;*

**контро́льный о.** кантро́льны адбі́так

**отправи́тель** адпра́ўшчык *м.,* адпра́ўнік *м.,* адсыла́льнік *м.;*

**о. письма́** адпра́ўшчык (адпра́ўнік) пісьма́

**отпра́вить** адпра́віць

**отпра́вка** адпра́ўка *ж.*

**отправле́ние** *(почтовое)* адпраўле́нне *ср.*

**отправля́ть** адпраўля́ць

**отправно́й** зыхо́дны

**отпра́вочный** адпраўны́

**отпрессо́вка** *(реставрационная)* адпрасо́ўка *ж.*

**о́тпуск** 1. *(действие)* во́дпуск, -ку *м.;* 2. *(по работе)* адпачы́нак, -нку *м.,* во́дпуск, -ку *м.;*

**академи́ческий о.** акадэмі́чны во́дпуск;

**бессро́чный о.** бестэрміно́вы во́дпуск;

**декре́тный о.** дэкрэ́тны во́дпуск;

**долгосро́чный о.** доўгатэрміно́вы во́дпуск;

**дополни́тельный о.** дадатко́вы во́дпуск;

**ежего́дный о.** штогадо́вы адпачы́нак (во́дпуск);

**краткосро́чный о.** кароткатэрміно́вы во́дпуск;

**неиспо́льзованный о.** нявы́карыстаны адпачы́нак (во́дпуск);

**опла́чиваемый о.** апла́тны во́дпуск;

**о. без сохране́ния содержа́ния** во́дпуск без апла́ты, во́дпуск без захава́ння забеспячэ́ння (пла́ты);

**о. докуме́нта** во́дпуск дакуме́нта;

**о. по бере́менности и ро́дам** во́дпуск па цяжа́рнасці і ро́дах;

**о. по боле́зни** во́дпуск па хваро́бе;

**о. по семе́йным обстоя́тельствам** во́дпуск па сяме́йных абста́вінах;

**о. по ухо́ду за ребёнком** во́дпуск па до́гляду дзіця́ці;

**о. с сохране́нием содержа́ния** во́дпуск з апла́тай, во́дпуск з захава́ннем забеспячэ́ння (пла́ты);

**очередно́й о.** чарго́вы адпачы́нак (во́дпуск)

**отпускна́я гра́мота** адпускна́я гра́мата

**отпускна́я запи́ска** адпускна́я запі́ска

**отпускно́й докуме́нт** адпускны́ дакуме́нт

**отраже́ние** адлюстрава́нне *ср.*

**отражённые докуме́нты** адлюстрава́ныя дакуме́нты

**отраслева́я классифика́ция** галіно́вая класіфіка́цыя

**отраслева́я схе́ма классифика́ции дел (докуме́нтов)** галіно́вая схе́ма класіфіка́цыі спраў (дакуме́нтаў)

**отраслево́е управле́ние** *(действие)* галіно́вае кірава́нне

**отраслево́й госуда́рственный фонд** галіно́вы дзяржа́ўны фонд

**отраслево́й о́рган** галіно́вы о́рган

**отраслево́й при́знак дел** галіно́вая адзна́ка спраў

**отраслево́й центр нау́чно-техни́ческой информа́ции (ОЦНТИ)** галіно́вы цэнтр навуко́ва-тэхні́чнай інфарма́цыі (ГЦНТІ)

**о́трасль** галіна́ *ж.*

**отрица́ние** *ср.* адмаўле́нне *ср.*

**отрица́тельная фо́рма акце́пта** адмо́ўная фо́рма акцэ́пту

**отрица́тельное влия́ние** адмо́ўны ўплыў

**отсро́чка** адтэрміно́ўка *ж.*

**отстране́ние** *(от должности)* зваль-

не́нне *ср.*, зня́цце (з паса́ды); *(от участия в чем-либо)* адхіле́нне *ср.*

**отстрани́ть** *(от должности)* зво́льніць, зняць (з паса́ды); *(от участия в чем-либо)* адхіліць

**отстраня́ть** *(от должности)* звальня́ць, зніма́ць; *(от участия в чем-либо)* адхіля́ць

**отсы́лка** *ж. (по почте)* адсы́лка *ж.*, адсыла́нне *ср.*, адпра́ўка *ж.*

**отсы́лочный** адсы́лачны

**о́ттиск** адбі́так *м.*;

**о. печа́ти** адбі́так пяча́ткі

**о́тчество** *ср.* імя́ па ба́цьку

**отчёт** *м.* справазда́ча *ж.*;

**ава́нсовый о.** ава́нсавая справазда́ча;

**бухга́лтерский о.** бухга́лтарская справазда́ча;

**годово́й о.** гадава́я справазда́ча;

**операти́вный о.** аператы́ўная справазда́ча;

**периоди́ческий о.** перыяды́чная справазда́ча;

**произво́дственный о.** вытво́рчая справазда́ча;

**тво́рческий о.** тво́рчая справазда́ча;

**фина́нсовый о.** фіна́нсавая справазда́ча

**отчётная ве́домость** справазда́чная ве́дамасць

**отчётная калькуля́ция** справазда́чная калькуля́цыя

**отчётная фо́рма** справазда́чная фо́рма

**отчётные да́нные** справазда́чныя да́ныя

**отчётный докла́д** справазда́чны докла́д

**отчисле́ние 1.** адлічэ́нне *ср.*; **2.** *(увольнение)* звальне́нне *ср.* *(исключение из учебного заведения)* выключэ́нне *ср.*;

**амортизацио́нное о.** амартызацы́йнае адлічэ́нне;

**о. на социа́льные ну́жды** адлічэ́нне на сацыя́льныя патрэ́бы

**о́фис** о́фіс *м.*

**о́фисная те́хника** о́фісная тэ́хніка

**официа́льная бума́га** афіцы́йная папе́ра

**официа́льная газе́та** афіцы́йная газе́та

**официа́льное изда́ние** афіцы́йнае выда́нне

**официа́льное лицо́** афіцы́йная асо́ба

**официа́льное разъясне́ние** афіцы́йнае растлумачэ́нне

**официа́льный докуме́нт** афіцы́йны дакуме́нт

**офо́рмить** афо́рміць

**оформле́ние** афармле́нне *ср.*;

**археографи́ческое о. докуме́нтов** археаграфі́чнае афармле́нне дакуме́нтаў;

**о. де́ла** *(единицы хранения письменных документов)* афармле́нне спра́вы;

**о. обло́жки де́ла** афармле́нне во́кладкі спра́вы;

**о. официа́льного докуме́нта** афармле́нне афіцы́йнага дакуме́нта

**оформля́ть** афармля́ць

**офсе́тная печа́ть** афсе́тны друк

**охарактеризо́ванный** ахарактарызава́ны

**охарактеризова́ть** ахарактарызава́ць

**охра́на** ахо́ва *ж.*

**охрани́тельный тари́ф** ахава́льны тары́ф

**охрани́ть** *(от порчи)* ахава́ць, засцерагчы́

**охра́нная гра́мота** ахо́ўная гра́мата

**охра́нная сигнализа́ция** ахо́ўная сігналіза́цыя

**охраня́ть** *(от порчи)* ахо́ўваць, засцерага́ць

**ОЦД** *см.* **осо́бо це́нное де́ло**

**оцéнивать** ацэньваць
**оценúть** ацаніць
**оцéнка** ацэнка *ж.;*
**дéнежная о. докумéнтов** грашовая ацэнка дакументаў
**оцéночная комúссия** ацэначная камісія
**ОЦНТИ** *см.* **отраслевóй центр наýчно-техни́ческой информáции**
**очереднáя сéссия** чарговая сесія
**очереднóй óтпуск** чарговы адпачынак (водпуск)
**очереднóй съезд** чарговы з'езд
**ошибáться** памыляцца
**ошибúться** памыліцца
**ошúбка** памылка *ж.*
**ошúбочно** памылкова
**ошúбочность** памылковасць *ж.*
**ошúбочный** памылковы

# П

**пагинáция** *(порядковая нумерация страниц рукописи)* пагінацыя *ж.*
**пáгубное воздéйствие** згубны ўплыў
**паевóе товáрищество** паявое таварыства
**пай** пай, паю *м.;*
**вступúтельный п.** уступны пай;
**кооперати́вный п.** кааператы́ўны пай
**пакéт** пакет *м.;*
**контрóльный п. áкций** кантрольны пакет акцый
**пакетúрование** пакетаванне *ср.*
**пакéтный** пакетны
**пакт** пакт *м.*
**палеóграф** палеограф *м.*
**палеографúческая осóбенность докумéнта** палеаграфічная асаблівасць дакумента
**палеографúческий** палеаграфічны
**палеогрáфия** палеаграфія *ж.*
**палимпсéст** *(пергаменная древняя рукопись со смытым старым и вместо него нанесённым новым текстом)* палімпсест *м.*
**пáмятка** памятка *ж.*
**пáмятная запúска** памятная запіска
**пáмятник** помнік *м.;*
**документáльный п.** дакументальны помнік;
**п. белорýсской литератýры** помнік беларускай літаратуры;
**п. белорýсской пúсьменности** помнік беларускай пісьменнасці
**пáмятный** памятны
**паннó** *нескл.* пано *ср.*
**папúрусный** папірусны
**папúрусовый** папірусавы
**пáпка-регистрáтор** папка-рэгістратар *ж.*
**парáграф** параграф *м.*
**паритéт** парытэт, -ту *м.*
**паритéтность** парытэтнасць *ж.*
**паритéтный** парытэтны
**парлáментская сéссия** парламенцкая сесія
**парлáментские вы́боры** парламенцкія выбары
**парлáментский запрóс** парламенцкі запыт
**парлáментское большинствó** парламенцкая большасць
**парлáментское голосовáние** парламенцкае галасаванне

**парти́йный уста́в** партыйны статут

**па́спорт** па́шпарт *м.;*

**бессро́чный п.** бестэрміно́вы па́шпарт;

**дипломати́ческий п.** дыпламатычны па́шпарт;

**загрни́чный п.** заме́жны па́шпарт;

**краткосро́чный п.** кароткатэрміно́вы па́шпарт;

**п. архи́ва** па́шпарт архі́ва;

**п. зда́ния** па́шпарт будынка;

**п. изобрете́ния** па́шпарт вынахо́дкі;

**п. катало́га** па́шпарт катало́га;

**п. предприя́тия** па́шпарт прадпрые́мства;

**п. с ви́зой** па́шпарт з ві́зай;

**п. храни́лища** па́шпарт схо́вішча;

**редакцио́нный п.** рэдакцыйны па́шпарт;

**служе́бный п.** службо́вы па́шпарт;

**техни́ческий п.** тэхні́чны па́шпарт

**паспортиза́ция** пашпартыза́цыя *ж.*

**паспортизо́ванный** пашпартызава́ны

**паспортизова́ть** пашпартызава́ць

**паспорти́ст** пашпартыст *м.*

**па́спортный отде́л** па́шпартны аддзе́л

**па́спортный режи́м** па́шпартны рэжым

**па́спортный стол** па́шпартны стол

**пасси́в** пасі́ў, -сі́ву *м., мн. нет;*

**п. бала́нса** пасі́ў бала́нсу;

**п. ба́нка** пасі́ў ба́нка

**пасси́вность** пасі́ўнасць *ж.*

**пасси́вный бала́нс** пасі́ўны бала́нс

**пате́нт** патэ́нт *м.;*

**де́йствующий п.** дзе́ючы патэ́нт;

**дополни́тельный п.** дадатко́вы патэ́нт;

**коллекти́вный п.** калектыўны патэ́нт;

**ко́нсульский п.** ко́нсульскі патэ́нт

**пате́нтная документа́ция** патэ́нтная дакумента́цыя

**пате́нтная лице́нзия** патэ́нтная ліцэ́нзія

**пате́нтный сбор** патэ́нтны збор

**пате́нтный фонд** патэ́нтны фонд

**патентова́ние** патэнтава́нне *ср.;*

**зарубе́жное п.** заме́жнае патэнтава́нне

**патентова́ть** патэнтава́ць

**патентове́д** патэнтазна́вец *м.*

**патентове́дение** патэнтазна́ўства *ср.*

**патентообладáтель** патэнтаўлада́льнік *м.*

**патентоспосо́бность** патэнтаздо́льнасць *ж.*

**патриоти́ческий долг** патрыятычны абавя́зак

**па́уза** па́ўза *ж.*

**пачковяза́льная маши́на** пачкавяза́льная машына

**ПДП** *см.* **прое́кт дета́льной плани ро́вки**

**педагоги́ческий сове́т** педагагі́чны саве́т

**пенсио́нное де́ло** пенсі́йная спра́ва

**пенсио́нный фонд** пенсі́йны фонд

**пе́нсия** пе́нсія *ж.;*

**госуда́рственная п.** дзяржа́ўная пе́нсія;

**п. в связи́ с поте́рей корми́льца** пе́нсія ў су́вязі са стра́тай карміцеля;

**п. в связи́ с поте́рей трудоспосо́бности** пе́нсія ў су́вязі са стра́тай працаздо́льнасці;

**п. за вы́слугу лет** пе́нсія за вы́слугу гадо́ў;

**п. по во́зрасту** пе́нсія па ўзро́сту;

**персона́льная п.** персана́льная пе́нсія

**первенству́ющий** першынству-

кропкай з коскай, пры неабходнасці перад імі ў дужках даюцца тлумачальныя паметы:

**на́зва** *ж.* назва́ние *н.*, наименова́ние *н.*

**нумарава́нне** *н.* нумеро́вка *ж.*, нумерова́ние

**дазваля́ць** разреша́ть, позволя́ть, дозволя́ть; (*даваць магчымасць*) предоставля́ть

**засве́дчаны** засвиде́тельствованный; удостове́ренный, заве́ренный

**нез'яўле́нне** *н.* (*па накіраванні*) неприбы́тие; нея́вка *ж.*

Калі ж беларускае слова перадаецца на рускай мове лексемамі з рознымі значэннямі, то яны размяшчаюцца пад парадкавымі нумарамі праз кропку з коскай і нярэдка суправаджаюцца ў дужках семантычнымі паметамі, якія канкрэтызуюць іх значэнні:

**кіраўні́цтва** *н.* 1. (*дзеянне*) руково́дство; 2. (*установа*) управле́ние; 3. (*начальства*) руково́дство

**запро́шаны** 1. (*на нараду, інструктаж*) приглашённый; 2. (*пра цану*) запро́шенный

**ліст** *м.* 1. (*папяровы*) лист; 2. (*дакумент*) лист; 3. (*паштовае адпраўленне*) письмо́ *н.*

Тэрміны, у склад якіх уваходзяць прыдаткі, пададзены самастойнымі слоўнікавымі артыкуламі:

**а́драс-каляндá́р** *м.* а́дрес-календа́рь

**даве́дка-аб'екты́ўка** *ж.* спра́вка-объекти́вка

**пісьмо́-адка́з** *н.* письмо́-отве́т.

Тэрміны-амонімы (з маленькімі арабскімі лічбамі ўверсе і адпаведнымі паметамі) таксама даюцца асобнымі артыкуламі:

**зага́дваць**[1] (*даваць распараджэнннe*) прика́зывать; (*у пісьмовым выглядзе*) предпи́сывать

**зага́дваць**[2] (*кіраваць*) заве́довать; ве́дать

**ме́трыка**[1] *ж.* (*помнік пісьменнасці*) ме́трика

**ме́трыка**[2] *ж.* (*пасведчанне аб нараджэнні*) ме́трика.

Скарочаныя назвы (абрэвіятуры), якія замацаваліся ў дзелавой мове, прыводзяцца ў дужках пасля поўных і асобна ў алфавітным парадку як загаловачныя словы са спасылкай на поўную назву:

**аўтаматызава́ная сістэ́ма кантро́лю выкана́ння дакуме́нтаў** (АСКВД) автоматизи́рованная систе́ма контро́ля исполне́ния докуме́нтов (АСКИД)

**даве́дачна-інфармацы́йны фонд** (ДІФ) спра́вочно-информацио́нный фонд (СИФ)

**АСКВД** *гл.* **аўтаматызава́ная сістэ́ма кантро́лю выкана́ння дакуме́нтаў**

**ДІФ** *гл.* **даве́дачна-інфармацы́йны фонд**.

Каб паказаць сферу ўжывання таго ці іншага тэрміна, характар

яго функцыянавання ў сучаснай мове, граматычныя асаблівасці і інш., у слоўнікавыя артыкулы нярэдка ўводзяцца адпаведныя паметы і тлумачэнні (*бухг.*, *фін.*, *эк.*, *гіст.*, *уст.*, *разм.*, *наз.*, *нескл.*, *адз. няма, толькі мн.* і да т. п.):

**крэ́дыт**, **-ту** *м.*, *бухг.* кре́дит

**дасье́** *нескл.*, *н.* досье́

**ка́дры** *адз. няма* ка́дры

**зе́мскія а́кты** *гіст.* зе́мские а́кты

**абавяза́ць** (*каго*) обяза́ть; вмени́ть в обя́занность (*кому*)

**адмо́ва** *ж.* (*адмоўны адказ*) отка́з *м.*

Над націскнымі галоснымі ўсіх слоў і словазлучэнняў стаіць знак націску ( ́), акрамя аднаскладовых і з літарай **ё**, якая заўсёды пад націскам. У складаных словах пазначаны толькі асноўны націск:

**канцыля́рыя** *ж.* канцеля́рия

**апраўда́льны дакуме́нт** оправда́тельный докуме́нт

**спіс** *м.* спи́сок

**пуцёўка** *ж.* путёвка

**фотаплёнка** *ж.* фотоплёнка

**гуказа́піс**, **-су** *м.* звукоза́пись *ж.*

У выпадках, калі ў складзе тэрміналагічнага словазлучэння з аднолькавым значэннем могуць ужывацца два сінанімічныя словы, адно з іх змяшчаецца побач у круглых дужках як існуючы варыянт; пры адрозненні роду сінанімічных назоўнікаў прыводзіцца ўвесь выраз:

**засве́дчаная (заве́раная) ко́пія** заве́ренная ко́пия

**нявшта́тны рабо́тнік** нешта́тный (внешта́тный) рабо́тник

**даплатны́ ліст (даплатно́е пісьмо́)** доплатно́е письмо́.

Пры абазначэнні пэўнага паняцця двума сінанімічнымі словазлучэннямі або асобнымі словамі адно з іх таксама даецца ў круглых дужках як варыянт:

**абе́дзенны перапы́нак (перапы́нак на абе́д)** обе́денный переры́в

**выкана́ўца** *м.* (**выкана́вец** *м.*) исполни́тель.

У квадратныя дужкі ўзяты словы, якія не з'яўляюцца сінонімамі да папярэдняга слова, але могуць ужывацца на яго месцы ў гэтых словазлучэннях, надаючы ім адпаведнае значэнне:

**асно́ўныя палаже́нні кні́гі [дакуме́нта]** основны́е положе́ния кни́ги [докуме́нта].

Асноўнымі крыніцамі пры падрыхтоўцы Слоўніка з'яўляліся: Падручнік справаводства раённых выканаўчых камітэтаў. Выпуск першы. Агульнае справаводства і спецыяльныя справаводствы: адміністрацыйнае і паштовае. Мн., 1926; Падручнік справаводства

сельскіх і местачковых саветаў. Выпуск першы. Агульнае справаводства і спецыяльныя справаводствы: адміністрацыйнае і паштовае. Мн., 1926; Серада С. Дзелавод. Узоры афіцыйных папер, слоўнік тэхнічна-канцылярскіх выразаў і іншыя патрэбныя ў дзелаводстве веды. Пад рэд. М. Красінскага. Мн., 1926; Беларуская навуковая тэрміналогія: Вып. 10. Тэрміналогія права. Мн., 1926; Беларуская навуковая тэрміналогія. Вып. 11. Тэрміналогія грамадазнаўства. Мн., 1927; Беларуская навуковая тэрміналогія. Вып. 17. Слоўнік бухгалтарскай тэрміналогіі. Мн., 1928; Беларускі архіў. Мн., 1927—1930. Т. I—III; Байкоў М. Я., Некрашэвіч С. М. Беларуска-расійскі слоўнік. Мн., 1925; Беларуска-рускі слоўнік. У 2-х т. Мн., 1988—1989; Русско-белорусский словарь. В 2-х т. Мн., 1982; Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. У 5-ці т. Мн., 1977—1984; Беларуская савецкая энцыклапедыя. У 12-ці т. Мн., 1969—1975; Слоўнік беларускай мовы. Пад рэд. М. В. Бірылы. Мн., 1987; Русско-белорусский словарь общественно-политической терминологии. Под ред. Н. В. Бирилы и М. Р. Судника. Мн., 1970; Каўрус А. А. Дакумент па-беларуску: Справаводства. Бухгалтэрыя. Рыначная эканоміка. Мн., 1994; Дапаможнік па справаводству. Пад рэд. А. М. Міхальчанкі і Э. М. Давыдавай. Мн., 1993; Справаводства на беларускай мове. Слоўнік. (Гомельскі дзяржаўны універсітэт імя Ф. Скарыны; Гуліцкая В. А. і інш.). Гомель, 1992; Арганізацыйна-распарадчыя дакументы. Метадычныя рэкамендацыі. (Беларускі дзяржаўны эканамічны універсітэт; Панеўчык В. У., Фядотава І. Ф.). Мн., 1994; Юрыдычны энцыклапедычны слоўнік. Мн., 1992; Кунцевич Л. П., Николаев В. Ф., Николаева О. М. Краткий русско-белорусский словарь экономических терминов. Мн., 1993; Краткий словарь архивной терминологии. М.-Л., 1968; Краткий словарь видов и разновидностей документов. М., 1974; Словарь современной архивной терминологии социалистических стран. Вып. I. М., 1982; Вып. II. М., 1988; Делопроизводство и архивное дело. Термины и определения. ГОСТ 16487-83. М., 1991; Белов А. Н., Белов В. Н. Корреспонденция и делопроизводство. Учебник для техникумов. М., 1971; Петров Г. М. Делопроизводство в государственном управлении. Учебное пособие. Ярославль, 1988; Левкин В. А. Составление и оформление документов. М., 1991; Седова О. Л., Шардин В. В. Автоматизация технологических процессов составления документов. Учебное пособие. М., 1991; Автоматизированное рабочее место. Канцелярия. М., 1991; Мингалёв В. С., Ларин М. В. Специальные системы документирования. Учебник для средних специальных учебных заведений. М., 1989; Универсальное пособие по делопроизводству. М., 1991; Теория и практика архивного дела в СССР. Учебник для вузов. М., 1980; Осокина Н. М., Максимович Г. Ю. Информационно-поисковые системы в архивном деле. Учебное пособие. М., 1986; Першиков В. И., Савинков В. М. Толко-

вый словарь по информатике. М., 1991; Словарь русского языка. В 4-х т. М., 1957—1961; Русско-украинский словарь юридической терминологии. Киев, 1985. Выкарыстоўваліся таксама руска-іншамоўныя, іншамоўна-рускія слоўнікі, розныя даведнікі і дапаможнікі па справаводству і архіўнай справе, службовыя інструкцыі, метадычныя рэкамендацыі, дзелавыя паперы.

Працу па складанні Слоўніка выканалі навуковыя супрацоўнікі Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы: У. А. Сарока — кіраўнік творчай групы (літары А—О, прадмова Пра Слоўнік, Умоўныя скарачэнні), Т. М. Мальцава (літары П—Я). У Слоўніку выкарыстаны фактычны матэрыял (карткі), сабраны Г. В. Запартыка. Рэдагаванне рукапісу ажыццявіў У. А. Сарока. Кантрольнае ўдакладненне алфавітнага парадку і націскаў, падрыхтоўку тэксту для набору правяла Т. М. Мальцава.

**У. А. САРОКА**

## УМОЎНЫЯ СКАРАЧЭННІ

## УСЛОВНЫЕ СОКРАЩЕНИЯ

*адз.* — адзіночны лік — единственное число
*афіц.* — афіцыйнае слова, афіцыйны выраз — официальное слово, выражение
*бухг.* — бухгалтарскі тэрмін — бухгалтерский термин
*вайск.* — вайсковая справа — военное дело
*гандл.* — гандлёвы тэрмін — торговый термин
*гіст.* — гістарычны тэрмін — исторический термин
*гл.* — глядзіце — смотрите
*дав.* — давальны склон — дательный падеж
*дзеепрым.* — дзеепрыметнік — причастие
*дыпл.* — дыпламатыя — дипломатия
*ж.* — жаночы род — женский род
*зак.* — закончанае трыванне дзеяслова — совершенный вид глагола
*зборн.* — зборны назоўнік — собирательное существительное
*канц.* — канцылярскае слова, канцылярскі выраз — канцелярское слово, выражение
*м.* — мужчынскі род — мужской род
*мат.* — матэматыка — математика

| | |
|---|---|
| *месн.* | — месны склон — предложный падеж |
| *мн.* | — множны лік — множественное число |
| *муз.* | — музыка — музыка |
| *н.* | — ніякі род — средний род |
| *наз.* | — назоўнік — имя существительное |
| *незак.* | — незаконачанае трыванне дзеяслова — несовершенный вид глагола |
| *нескл.* | — нескланяльнае слова — несклоняемое слово |
| *палігр.* | — паліграфія — полиграфия |
| *перан.* | — пераноснае значэнне — переносное значение |
| *прым.* | — прыметнік — имя прилагательное |
| *прыназ.* | — прыназоўнік — предлог |
| *прысл.* | — прыслоўе — наречие |
| *разм.* | — размоўнае слова, размоўны выраз — разговорное слово, выражение |
| *родн.* | — родны склон — родительный падеж |
| *творн.* | — творны склон — творительный падеж |
| *тэхн.* | — тэхніка — техника |
| *уст.* | — устарэлае слова, устарэлы выраз — устаревшее слово, выражение |
| *фін.* | — фінансавы тэрмін — финансовый термин |
| *хім.* | — хімія — химия |
| *эк.* | — эканоміка — экономика |
| *юр.* | — юрыдычны тэрмін — юридический термин |

## БЕЛАРУСКІ АЛФАВІТ

Аа Бб Вв Гг Дд (Дж
дж Дз дз) Ее Ёё Жж
Зз Іі Йй Кк Лл Мм Нн
Оо Пп Рр Сс Тт Уу Ўў
Фф Хх Цц Чч Шш
Ыы Ьь Ээ Юю Яя

# А

**абавя́зак, -зку** *м.* **1.** обя́занность *ж.*; долг; **2.** *толькі мн.* обя́занности;

**выќонваць абавя́зкі** исполня́ть обя́занности;

**грамадзя́нскі а.** гражда́нский долг;

**канстытуцы́йны а.** конституцио́нный долг;

**службо́выя абавя́зкі** служе́бные обя́занности;

**усеагу́льны во́інскі а.** всео́бщая во́инская обя́занность

**абавяза́цельства** *н.* обяза́тельство;

**дагаво́рныя абавяза́цельствы** догово́рные обяза́тельства;

**закладно́е а.** закладно́е (зало́говое) обяза́тельство;

**пазыко́вае а.** заёмное обяза́тельство;

**плаце́жнае а.** платёжное обяза́тельство;

**страхаво́е а.** страхово́е обяза́тельство

**абавяза́ць** (*каго*) обяза́ть, вмени́ть в обя́занность (*кому*)

**абавя́звацца** обя́зываться

**абавя́зваць** (*каго*) обя́зывать, вменя́ть в обя́занность (*кому*)

**абавязко́ва** обяза́тельно

**абавязко́вае рашэ́нне** обяза́тельное реше́ние

**абавязко́вае страхава́нне** обяза́тельное страхова́ние

**абавязко́васць** *ж.* обяза́тельность

**абавязко́вая слу́жба** *вайск.* действи́тельная слу́жба

**абавязко́вы рэквізі́т** обяза́тельный реквизи́т

**абагу́льненасць** *ж.* обобщённость

**абагульне́нне** *н.* обобще́ние

**абагу́льнены** обобщённый

**абагу́льніць** обобщи́ть

**абагульня́льны дакуме́нт** обобща́ющий докуме́нт

**абагульня́льны загало́вак** обобща́ющий заголо́вок

**абагульня́ць** обобща́ть

**абазнача́ць** обознача́ть

**абазна́чыць** обозна́чить

**абазначэ́нне** *н.* обозначе́ние

**абанеме́нт** *м.* абонеме́нт

**абанеме́нтны** абонеме́нтный

**абане́нт** *м.* абоне́нт

**абане́нтнае абслуго́ўванне** абоне́нтное обслу́живание

**абане́нтны** абоне́нтный

**абане́нцкая ка́ртка** абоне́нтская ка́рточка

**абане́нцкі** абоне́нтский

**абані́раванне** *н.* абони́рование

**абані́раваны** абони́рованный

**абаніраваць** (*атрымліваць па абанеменце*) абони́ровать

**абарача́льнасць**[1] *ж.*, *эк.* обраща́емость, обора́чиваемость; обрати́мость;

**а. абаро́тных сро́дкаў** обраща́емость (обора́чиваемость) оборо́тных средств;

**а. валю́ты** обрати́мость валю́ты

**абарача́льнасць**[2] *ж.*, *хім.* обрати́мость

**абарачáльная валю́та** обрати́мая валю́та

**абарачáльны пазітыў** обрати́мый позити́в

**абарачэ́нне**[1] *н., эк.* обраще́ние;
- **вэ́ксальнае а.** ве́ксельное обраще́ние;
- **грашо́вае а.** де́нежное обраще́ние

**абарачэ́нне**[2] *н., хім.* обраще́ние;
- **а. адлюстраванне** обраще́ние изображе́ния

**абаро́на** *ж.* защи́та;
- **а. дысертáцыі** защи́та диссертáции;
- **а. спажывéцкага ры́нку** защи́та потреби́тельского ры́нка

**абаро́нчы дагаво́р** оборони́тельный догово́р

**абаро́т, -ту** *м., фін., гандл.* оборо́т;
- **а. капітáлу** оборо́т капитáла;
- **а. тавáраў** оборо́т товáров;
- **а. фо́ндаў** оборо́т фо́ндов;
- **пазары́начны а.** внеры́ночный оборо́т

**абаро́тная вéдамасць** *бухг.* оборо́тная вéдомость

**абаро́тныя фо́нды** *фін.* оборо́тные фо́нды

**абвéстка** *ж.* объявлéние *н.*, оповещéние *н.*

**абвéшчаны** 1. объя́вленный; провозглашённый; 2. оглашённый

**абвінавáціць** обвини́ть

**абвінавáчанне** *н.* обвинéние

**абвінавáчваны** *наз., м., юр.* обвиня́емый

**абвінавáчваць** обвиня́ть

**абвясці́ць** 1. объяви́ть; (*урачыста аб'явіць*) провозгласи́ть; 2. (*зрабіць вядомым усім*) огласи́ть

**абвяшчáць** 1. объявля́ть; (*урачыста аб'яўляць*) провозглашáть; 2. (*рабіць вядомым усім*) оглашáть

**абвяшчэ́нне** *н.* 1. объявлéние; провозглашéние; 2. оглашéние

**абгрунтавáнае патрабавáнне** обосно́ванное трéбование

**абгрунтавáнае рашэ́нне** обосно́ванное решéние

**абгрунтавáная скáрга** обосно́ванная жáлоба

**абгрунтавáнне** *н.* обосновáние;
- **тэарэты́чнае а.** теорети́ческое обосновáние;
- **тэ́хніка-эканамі́чнае а. (ТЭА)** тéхнико-экономи́ческое обосновáние (ТЭО)

**абгрунтавáны до́каз** обосно́ванный до́вод

**абгрунтавáць** обосновáть

**абгрунто́ўваць** обосно́вывать

**абéд, -ду** *м.* обéд

**абéдзенны перапы́нак (перапы́нак на абéд)** обéденный переры́в

**аб'éкт** *м.* объéкт;
- **а. інфармáцыі** объéкт информáции;
- **а. навуко́вага даслéдавання** объéкт нау́чного исслéдования

**аб'éктна-мáрачная сістэ́ма арганізáцыі тэхні́чных дакументáльных матэрыя́лаў** объéктно-мáрочная систéма организáции техни́ческих документáльных материáлов

**аб'éктны каталóг** объéктный каталóг

**аб'éктны каштары́с** объéктная смéта

**аб'екты́ўна** объекти́вно, беспристрáстно

**аб'екты́ўнасць** *ж.* объекти́вность, беспристрáстность, беспристрáстие *н.*

**аб'екты́ўны фáктар** объекти́вный фáктор

**аб'ём, -му** *м.* объём

**аб'ёмістасць** *ж.* объёмистость

**аб'ёмісты** объёмистый

**аб'ёмнасць** *ж.* объёмность

**аб'ёмны** объёмный

**абзáц** *м.* 1. абзáц; крáсная строкá; 2. (*частка тэксту паміж двума водступамі*) абзáц

**абкладанне** *н.* (*падатак*) обложение
**абкладаць** (*падаткам, штрафам*) облагать
**абкласці** (*падаткам, штрафам*) обложить
**абласны савет** областной совет
**аблігацыйны** облигационный
**аблігацыя** *ж.* облигация
**абмежавальнік** *м.* ограничитель
**абмежавальны тарыф** ограничительный тариф
**абмежавальныя даты** ограничительные даты
**абмежаванасць** *ж.* ограниченность
**абмежаванне** *н.* ограничение
**абмежаваны** ограниченный
**абмежаваць** ограничить
**абмен** -ну *м.* обмен;
- а. **паветра ў архівасховішчы** обмен воздуха в архивохранилище;
- **безвалютны** а. безвалютный обмен

**абменны фонд** обменный фонд
**абмеркаванне** *н.* обсуждение
**абмеркаваны** обсуждённый
**абмеркаваць** обсудить
**абмяжоўваць** ограничивать
**абмяніць** обменить
**абмяняць** обменять
**абмяркоўваць** обсуждать
**абнавіць** обновить
**абнаўленне** *н.* обновление;
- а. **дакументаў** обновление документов

**абнаўляць** обновлять
**абноўлены** обновлённый
**абрэвіятура** *ж.* аббревиатура
**абрэвіятурны** аббревиатурный
**абсалютна** абсолютно; совершенно;
- а. **сакрэтна** совершенно секретно

**абсалютная большасць** абсолютное большинство
**абсалютная санкцыя** абсолютная санкция
**абсалютная ўлада** абсолютная власть
**абсалютны** абсолютный; совершенный
**абскарджанне** *н., юр.* обжалование;
- а. **дзеянняў службовых асоб** обжалование действий должностных лиц

**абследавальнік** *м.* обследователь
**абследавальніцкі** обследовательский
**абследаванасць** *ж.* обследованность
**абследаванне** *н.* обследование
**абследаваны** обследованный
**абследавацца** обследоваться
**абследаваць** обследовать
**абслуговы персанал** обслуживающий персонал
**абслугоўванне** *н.* обслуживание;
- **абанентнае** а. абонентное обслуживание;
- **навукова-інфармацыйнае** а. научно-информационное обслуживание;
- **разлікова-касавае** а. расчётно-кассовое обслуживание

**абслугоўвацца** обслуживаться
**абслугоўваць** обслуживать
**абслужыць** обслужить
**абсталяванне** *н.* оборудование; (*забеспячэнне ўсімі неабходнымі тэхнічнымі сродкамі*) оснащение, оснастка *ж.*;
- **дапаможнае** а. **для мантажу гуказапісаў** вспомогательное оборудование для монтажа звукозаписей;
- **кіназдымальнае** а. киносъёмочное оборудование;
- **наменклатурна-адрасавальнае** а. номенклатурно-адресовальное оборудование;
- **офіснае** а. офисное оснащение (офисная оснастка);

**папераразальнае а.** бумагорезальное оборудование;
**перыферыйнае а.** периферийное оборудование
**абходны ліст (лісток)** обходной лист (листок)
**аб'ява** *ж.* объявление *н.*
**аб'явіць** объявить; (*пра дакумент*) огласить
**аб'яднальнік** *м.* объединитель
**аб'яднальны** объединительный; объединяющий
**аб'яднанне** *н.* объединение;
**аграпрамысловае а.** агропромышленное объединение;
**навукова-вытворчае а.** научно-производственное объединение
**аб'яднаны архіўны фонд** объединённый архивный фонд
**аб'яднаны ведамасны архіў** объединённый ведомственный архив
**аб'яднацца** объединиться
**аб'яднаць** объединить
**аб'ядноўвацца** объединяться
**аб'ядноўваць** объединять
**абязлічанасць** *ж.* обезличенность
**абязлічаная сістэма абазначэння тэхнічных дакументальных матэрыялаў** обезличенная система обозначения технических документальных материалов
**абязлічаны** обезличенный
**абязлічваць** обезличивать
**абязлічка** *ж.* обезличка
**абязлічыць** обезличить
**абяскoлеранне** *н.* обесцвечение
**абяскoлераны** обесцвеченный
**абяскoлервацца** обесцвечиваться
**абяскoлерваць** обесцвечивать
**абяскoлерыць** обесцветить
**абяспылены** обеспыленный
**абяспыліць** обеспылить
**абяспыльванне** *н.* обеспыливание;
**а. архіўных дакументаў** обеспыливание архивных документов
**абяспыльваць** обеспыливать
**абясцэненне** *н.* обесценение
**абясцэнены** обесцененный
**абясцэненыя грошы** обесцененные деньги
**абясцэніцца** обесцениться
**абясцэніць** обесценить
**абясцэньвацца** обесцениваться
**абясцэньваць** обесценивать
**аванс, -су** *м.* аванс;
**грашовы а.** денежный аванс;
**мэтавы а.** целевой аванс;
**натуральны а.** натуральный аванс
**авансаатрымальнік** *м.* авансополучатель
**авансаванне** *н.* авансирование;
**а. прадпрыемстваў** авансирование предприятий
**авансаваны** авансированный
**авансаваць** авансировать
**авансавая справаздача** авансовый отчёт
**авансавы плацёж** авансовый платёж
**авансавыя грошы** авансовые деньги
**авансадавец** *м.* авансодатель
**авансатрымальнік** *м.* авансодержатель
**аварыйна-сігнальны** аварийно-сигнальный
**аварыйнасць** *ж.* аварийность
**аварыйны** аварийный
**аварыя** *ж.* авария
**авіза** *нескл., н., фін.* авизо
**авізаваны** *фін.* авизованный
**авізаваць** *фін.* авизировать
**авіяпаштовы** авиапочтовый
**авіяпошта** *ж.* авиапочта
**авіясувязь** *ж.* авиасвязь
**авіятранспарт** *м.* авиатранспорт
**авіяцыя** *ж.* авиация
**авуары** *адз. няма, фін.* авуары
**агаворачны** оговорочный
**агаворка** *ж.* (*заўвага*) оговорка

**аге́нт** *м.* аге́нт;

**страхавы́ а.** страхово́й аге́нт

**аге́нцкі** аге́нтский

**аге́нцтва** *н.* аге́нтство;

**ба́нкаўскае а.** ба́нковское аге́нтство;

**гандлёвае а.** торго́вое аге́нтство;

**страхаво́е а.** страхово́е аге́нтство

**агітацы́йная лісто́ўка** агитацио́нная листо́вка

**агітацы́йны лісто́к** агитацио́нный листо́к

**агля́д, -ду** *м.* 1. (*кароткае паведамленне*) обзо́р, обозре́ние *н.*; 2. (*праверка спраўнасці чаго-небудзь*) осмо́тр;

**а. архі́ўнага фо́нду** обзо́р архи́вного фо́нда;

**а. архі́ўных дакуме́нтаў** обзо́р архи́вных докуме́нтов;

**а. дакумента́льных матэры́ялаў** обзо́р документа́льных материа́лов;

**аналіты́чны а.** аналити́ческий обзо́р;

**гістары́чны а.** истори́ческий обзо́р;

**інфармацы́йны а.** информацио́нный обзо́р;

**кан'юнкту́рны а.** конъюнкту́рный обзо́р;

**тэматы́чны а. дакуме́нтаў** тема́тический обзо́р докуме́нтов;

**тэхні́чны а.** техни́ческий осмо́тр;

**фіна́нсава-эканамі́чны а.** фина́нсово-экономи́ческий обзо́р

**агля́дная інфарма́цыя** обзо́рная информа́ция

**агля́дны арты́кул** обзо́рная статья́

**аграпрамысло́вае аб'ядна́нне** агропромы́шленное объедине́ние

**аграфі́рма** *ж.* агрофи́рма

**агульнаадукацы́йны ўзро́вень** общеобразова́тельный у́ровень

**агульнадасту́пная інфарма́цыя** общедосту́пная информа́ция

**агульнадзяржа́ўная аўтаматызава́ная сістэ́ма** (АДАС) общегосуда́рственная автоматизи́рованная систе́ма (ОГАС)

**агу́льнае кірава́нне** о́бщее управле́ние

**агульнанавуко́вы падыхо́д у архівазна́ўстве** общенау́чный подхо́д в архивове́дении

**агу́льная даве́ранасць** о́бщая дове́ренность

**агу́льная запазы́чанасць** о́бщая задо́лженность

**агу́льны аддзе́л** о́бщий отде́л

**агу́льны бланк** о́бщий бланк

**агу́льны дакуме́нт** о́бщий докуме́нт

**агу́льны паказа́льнік** о́бщий указа́тель

**агу́льны ры́нак** о́бщий ры́нок

**агу́льны стаж пра́цы** о́бщий стаж рабо́ты

**адабра́ны** (*выдзелены, выбраны*) ото́бранный, вы́деленный

**адабра́ць**[1] (*выдзеліць, выбраць з агульнай масы*) отобра́ть, вы́делить

**адабра́ць**[2] (*станоўча ацэньваць*) одобря́ть

**адабрэ́нне** *н.* одобре́ние

АДАС *гл.* **агульнадзяржа́ўная аўтаматызава́ная сістэ́ма**

**адасабле́нне** *н.* обособле́ние

**адасабля́цца** обособля́ться

**адасабля́ць** обособля́ть

**адасла́ны** ото́сланный, отпра́вленный

**адасла́ць** 1. (*па пошце*) отосла́ть, отпра́вить; 2. (*зрабіць адсылку да чаго-небудзь*) отосла́ть;

**а. да першакрыні́цы** отосла́ть к первоисто́чнику;

**а. пісьмо́** отосла́ть (отпра́вить) письмо́

**адасо́біцца** обосо́биться

**адасо́біць** обосо́бить

**адасо́бленасць** *ж.* обосо́бленность

**адасо́блены** обосо́бленный

**АДАФРБ** *гл.* **Адзі́ны дзяржа́ўны архі́ўны фонд Рэспу́блікі Белару́сь**

**адбе́льванне** *н.* отбе́ливание;

**а. папе́ры** отбе́ливание бума́ги

**адбе́льваць** отбе́ливать

**адбіра́ць** *(выдзяляць, выбіраць)* отбира́ть, выделя́ть

**адбі́так** *м.* 1. *(адлюстраванне)* отпеча́ток; 2. о́ттиск;

**а. пяча́ткі** о́ттиск печа́ти;

**кантро́льны а.** контро́льный отпеча́ток

**адбо́р, -ру** *м. (з агульнай масы)* отбо́р, выделе́ние *н.*;

**а. дакуме́нтаў для апублікава́ння** отбо́р докуме́нтов для опубликова́ния;

**а. дакуме́нтаў для зні́шчэння** выделе́ние докуме́нтов к уничтоже́нию

**адбо́рачная камі́сія** отбо́рочная коми́ссия

**адбо́рачны спіс** отбо́рочный спи́сок

**адбо́рка** *ж.* отбо́рка

**адбялі́ць** отбели́ть

**адваро́тны бок ліста́ дакуме́нта** оборо́тная сторона́ листа́ докуме́нта

**адво́д, -ду** *м.* (*непрыняцце, адхіленне*) отво́д, отклоне́ние *н.*;

**а. кандыдату́ры** отво́д (отклоне́ние) кандидату́ры

**аддава́ць** отдава́ть

**адда́ць** отда́ть

**адда́ча** *ж.* отда́ча;

**а. капіталаўкладá́нняў** отда́ча капиталовложе́ний

**аддзе́л** *м.* отде́л;

**агу́льны а.** о́бщий отде́л;

**а. арганіза́цыі пра́цы і зарабо́тнай пла́ты** отде́л организа́ции труда́ и за́работной пла́ты;

**а. гісто́рыі** отде́л исто́рии;

**а. за́пісу а́ктаў грамадзя́нскага ста́ну (ЗАГС)** отде́л за́писи а́ктов гражда́нского состоя́ния (ЗАГС);

**а. ка́драў** отде́л ка́дров;

**а. сацыя́льнага забеспячэ́ння** *отде́л социа́льного обеспе́чения;*

**а. тэхні́чнага кантро́лю (АТК)** отде́л техни́ческого контро́ля (ОТК);

**адміністрацы́йны а.** администрати́вный отде́л;

**архі́ўны а. выканка́ма** архи́вный отде́л исполко́ма;

**асо́бы а.** *(спецыяльны)* осо́бый отде́л;

**бібліяграфі́чны а.** библиографи́ческий отде́л;

**вытво́рча-тэхні́чны а.** произво́дственно-техни́ческий отде́л;

**па́шпартны а.** па́спортный отде́л;

**пла́навы а.** пла́новый отде́л;

**рукапі́сны а.** рукопи́сный отде́л;

**філа́нсавы а.** фина́нсовый отде́л

**аддзяле́нне** *н.* (*аддзел, частка чаго-небудзь*) отделе́ние;

**а. мілі́цыі** отделе́ние мили́ции;

**пашто́вае а.** почто́вое отделе́ние;

**тэрапеўты́чнае а. бальні́цы** терапевти́ческое отделе́ние больни́цы

**адзінанача́лле** *н.* единонача́лие

**адзінанача́льнік** *м.* единонача́льник

**Адзі́ная дзяржа́ўная сістэ́ма дакументацы́йнага забеспячэ́ння і кірава́ння (АДСДЗК)** Еди́ная госуда́рственная систе́ма документацио́нного обеспе́чения и управле́ния (ЕГСДОУ)

**Адзі́ная дзяржа́ўная сістэ́ма справаво́дства (АДСС)** Еди́ная госуда́рственная систе́ма делопроизво́дства (ЕГСД)

**адзíная сістэ́ма класіфіка́цыі і кадзíравання** еди́ная систе́ма классифика́ции и коди́рования

**адзíная сістэ́ма навуко́ва-даве́дачнага апара́ту** еди́ная систе́ма нау́чно-спра́вочного аппара́та

**адзíная сістэ́ма прагра́мнай дакумента́цыі** (АСПД) еди́ная систе́ма програ́ммной документа́ции (ЕСПД)

**адзíнка** *ж.* едини́ца;

а. **вымярэ́ння** едини́ца измере́ния;

а. **захо́ўвання архíўных даку́ментаў** едини́ца хране́ния архи́вных докуме́нтов;

а. **захо́ўвання канстру́ктарскай дакумента́цыі** едини́ца хране́ния констру́кторской документа́ции;

а. **захо́ўвання кінадакумента́цыі** едини́ца хране́ния кинодокумента́ции;

а. **захо́ўвання навуко́вай дакумента́цыі** едини́ца хране́ния нау́чной документа́ции;

а. **захо́ўвання прае́ктнай дакумента́цыі** едини́ца хране́ния прое́ктной документа́ции;

а. **захо́ўвання тэхналагíчнай дакумента́цыі** едини́ца хране́ния технологи́ческой документа́ции;

а. **захо́ўвання фонадакумента́цыі** едини́ца хране́ния фонодокумента́ции;

а. **захо́ўвання фотадакумента́цыі** едини́ца хране́ния фотодокумента́ции;

а. **улíку архíўных даку́ментаў** едини́ца учёта архи́вных докуме́нтов;

а. **улíку кінадаку́ментаў** едини́ца учёта кинодокуме́нтов;

а. **улíку фонадаку́ментаў** едини́ца учёта фонодокуме́нтов;

а. **улíку фотадаку́ментаў** едини́ца учёта фотодокуме́нтов;

**адміністрацы́йная** а. администрати́вная едини́ца;

**гаспадарчаразліко́вая** а. хозрасчётная едини́ца;

**грашо́вая** а. де́нежная едини́ца;

**міжнаро́дныя падліко́выя адзíнкі** междунаро́дные счётные едини́цы

**адзíнкавасць** *ж.* едини́чность

**адзíнкавы** едини́чный

**адзíнства** *н.* еди́нство;

а. **дзе́янняў** еди́нство де́йствий;

а. **інтарэ́саў** еди́нство интере́сов;

**нацыяна́льнае** а. национа́льное еди́нство

**адзíны** 1. (*общий*) еди́ный; 2. еди́нственный

**Адзíны дзяржа́ўны архíўны фонд Рэспу́блікі Белару́сь** (**АДАФРБ**) Еди́ный госуда́рственный архи́вный фонд Респу́блики Белару́сь (ЕГАФРБ)

**адзíны інфармацы́йны фонд архíва** еди́ный информацио́нный фонд архи́ва

**адзíны план дзе́янняў** еди́ный план де́йствий

**адзна́ка** *ж.* 1. (*паметка на* (*у*) *чым-небудзь*) отме́тка; 2. (*адметная рыса*) при́знак *м.*; 3. (*заслуга, адзначаная ўзнагародай*) отли́чие *н.*; 4. (*бал*) отме́тка;

а. **аб выкана́нні даку́мента** отме́тка об исполне́нии докуме́нта;

а. **аб засве́дчанні ко́піі** отме́тка о завере́нии ко́пии;

а. **аб кантро́лі выкана́ння даку́мента** отме́тка о контро́ле исполне́ния докуме́нта;

а. **аб паступле́нні даку́мента** отме́тка о поступле́нии докуме́нта;

а. **аб перано́се да́ных на машы́нны но́сьбіт** отме́тка о пе-

рено́се да́нных на маши́нный носи́тель;

а. у **па́шпарце** отме́тка в па́спорте;

**адзна́кі завядзе́ння спраў** при́знаки заведе́ния дел;

**алфаві́тная** а. алфави́тный при́знак;

**а́ўтарская** а. **спраў** а́вторский при́знак дел;

**галіно́вая** а. **спраў** отраслево́й при́знак дел;

**геаграфі́чная** а. **спраў** географи́ческий при́знак дел;

**дыпло́м з адзна́кай** дипло́м с отли́чием;

**зне́шнія адзна́кі дакуме́нта** вне́шние при́знаки докуме́нта;

**карэспандэ́нцкая** а. **спраў** корреспонде́нтский при́знак дел;

**наміна́льная** а. **спраў** номина́льный при́знак дел;

**прадме́тна-апыта́льная** а. **спраў** предме́тно-опро́сный (-вопро́сный) при́знак дел;

**структу́рная** а. **спраў** структу́рный при́знак дел;

**тэматы́чная** а. **спраў** темати́ческий при́знак дел;

**функцыяна́льная** а. **спраў** функциона́льный при́знак дел;

**храналагі́чная** а. **спраў** хронологи́ческий при́знак дел

**адзнача́ць** отмеча́ть; (*пра дакументы*) регистри́ровать

**адзна́чыць** отме́тить; (*пра дакументы*) зарегистри́ровать

**адка́з, -зу** *м.* отве́т;

а. **на пісьмо́** отве́т на письмо́;

**катэгары́чны** а. категори́ческий (категори́чный ) отве́т;

**нефарма́льны** а. неформа́льный отве́т

**адка́з: папе́ра ў** а. (*дзелавое пісьмо ў адказ*) отве́тная бума́га; **тэлегра́ма ў** а. отве́тная телегра́мма

**адказа́ць** отве́тить

**адка́зваць** отвеча́ть

**адка́знасць** *ж.* отве́тственность;

**адміністрацы́йная** а. администрати́вная отве́тственность;

**маёмасная** а. иму́щественная отве́тственность;

**матэрыя́льная** а. материа́льная отве́тственность;

**не́сці** а. нести́ отве́тственность;

**персана́льная (асабі́стая)** а. персона́льная отве́тственность;

**службо́вая** а. должностна́я отве́тственность

**адка́зная асо́ба** отве́тственное лицо́

**адка́зная паса́да** отве́тственная до́лжность

**адка́зны выкана́ўца (выкана́вец)** отве́тственный исполни́тель

**адкліка́нне** *н., афіц.* (*спыненне функцый каго-небудзь*) отзы́в

**адклі́каны** *афіц.* ото́званный

**адклі́каць** *афіц.* (*спыніць функцыі каго-небудзь*) отозва́ть;

а. **дэпута́та** отозва́ть депута́та

**адкліка́ць** *афіц.* (*спыняць функцыі каго-небудзь*) отзыва́ть

**адкры́тае галасава́нне** откры́тое голосова́ние

**адкры́тае захо́ўванне дакуме́нтаў** откры́тое хране́ние докуме́нтов

**адкры́тае пасяджэ́нне** откры́тое заседа́ние

**адкры́ты архі́ў** откры́тый архи́в

**адкры́ты архі́ўны фонд** откры́тый архи́вный фонд

**адкры́ты ліст (адкры́тае пісьмо́)** откры́тое письмо́

**адкры́тыя вы́бары** откры́тые вы́боры

**адлі́чваць** (*утрымліваць*) вычита́ть, отчисля́ть

**адлічы́ць** (*утрымаць*) вы́честь, отчи́слить;

а. **з зарпла́ты** вы́честь (отчи́слить) из зарпла́ты

**адлічэ́нне** *н.* 1. (*утрыманне з зар-*

*платы*) вы́чет *м.*, отчисле́ние; 2. (*адлічаная сума*) отчисле́ние;

а. **на сацыя́льныя патрэ́бы** отчисле́ние на социа́льные ну́жды;

**амартызацы́йнае а.** амортизацио́нное отчисле́ние;

**до́левае а.** долево́е отчисле́ние

**адлюстрава́нне** *н.* 1. изображе́ние; 2. отраже́ние;

**фатаграфі́чнае а.** фотографи́ческое изображе́ние

**адлюстрава́ныя дакуме́нты** отражённые докуме́нты

**адмаўля́цца** отка́зываться

**адмаўля́ць** (*не задавальняць просьбы*) отка́зывать

**адмацава́льны тало́н** открепи́тельный тало́н

**адмацава́нне** *н.* откреплéние

**адмацава́ны** откреплённый

**адмацава́цца** открепи́ться

**адмацава́ць** открепи́ть

**адмацо́ўвацца** открепля́ться

**адмацо́ўваць** открепля́ть

**адме́на** *ж.* (*закона, рашэння*) отме́на

**адме́нены** отменённый

**адміністрава́нне** *н.* администри́рование

**адміністрава́ць** администри́ровать

**адміністра́тар** *м.* администра́тор

**адміністра́тарскі** администра́торский

**адміністра́тарства** *н.* администра́торство

**адміністрацы́йна-выкана́ўчы** администрати́вно-исполни́тельный

**адміністрацы́йна-гаспада́рчы** администрати́вно-хозя́йственный

**адміністрацы́йнае кірава́нне** администрати́вное управле́ние

**адміністрацы́йнае пра́ва** администрати́вное пра́во

**адміністрацы́йнае распараджэ́нне** администрати́вное распоряже́ние

**адміністрацы́йнае рашэ́нне** администрати́вное реше́ние

**адміністрацы́йнае спагна́нне** администрати́вное взыска́ние

**адміністрацы́йнае ўздзе́янне** администрати́вное возде́йствие

**адміністрацы́йнае ўказа́нне** администрати́вное указа́ние

**адміністрацы́йна-кама́ндны** администрати́вно-кома́ндный

**адміністрацы́йна-кіраўні́цкі апара́т** администрати́вно-управле́нческий аппара́т

**адміністрацы́йна-кіраўні́цкі персана́л** администрати́вно-управле́нческий персона́л

**адміністрацы́йна-кіраўні́цкія вы́даткі (расхо́ды)** администрати́вно-управле́нческие изде́ржки (расхо́ды)

**адміністрацы́йна-тэрытарыя́льны падзе́л** администрати́вно-территориа́льное деле́ние

**адміністрацы́йная адзі́нка** администрати́вная едини́ца

**адміністрацы́йная адка́знасць** администрати́вная отве́тственность

**адміністрацы́йная інфармацы́йная сістэ́ма** администрати́вная информацио́нная систе́ма

**адміністрацы́йная паса́да** администрати́вная до́лжность

**адміністрацы́йная пастано́ва** администрати́вное постановле́ние

**адміністрацы́йная са́нкцыя** администрати́вная са́нкция

**адміністрацы́йная су́вязь** администрати́вная связь

**адміністрацы́йная ўла́да** администрати́вная власть

**адміністрацы́йная фу́нкцыя** администрати́вная фу́нкция

**адміністрацы́йны аддзе́л** администрати́вный отде́л

**адміністрацы́йны кантро́ль** администрати́вный контро́ль

**адміністрацы́йны пара́дак** администрати́вный поря́док

**адміністрацыйны пратакол** административный протокол

**адміністрацыйны этыкет** административный этикет

**адміністрацыя** *ж.* администрация

**адмова** *ж.* (*адмоўны адказ*) отказ *м.*

**адмовіць** отказать;

а. **у просьбе** отказать в просьбе

**адмоўная форма акцэпту** отрицательная форма акцепта

**адмоўны ўплыў** отрицательное влияние

**адмяніць** (*зрабіць несапраўдным*) отменить;

а. **пастанову** отменить постановление

**адмяняць** отменять

**аднаасобнае кіраванне** единоличное управление

**аднаасобная ўлада** единоличная власть

**аднааспектная класіфікацыя** одноаспектная классификация

**аднабаковасць** *ж.* односторонность

**аднабаковы дагавор** односторонний договор

**аднагалосна** единогласно

**аднагалоснае выбранне** единогласное избрание

**аднагалоснасць** *ж.* единогласие *н.*

**аднагалосны** единогласный

**аднаразова** единовременно

**аднаразовая выплата** единовременная выплата

**аднаразовая дапамога** единовременное пособие

**аднаразовы** единовременный

**аднатыпнасць** *ж.* однотипность

**аднатыпны** однотипный

**аднаўленне** *н.* 1. восстановление; 2. возобновление;

а. **дагавора** возобновление договора;

а. **згубленых (страчаных) дакументаў** восстановление утраченных документов;

а. **тэксту [адлюстравання]** восстановление текста [изображения]

**аднаўленчы** восстановительный

**аднаўляць** 1. (*вяртаць да ранейшага выгляду*) восстанавливать; 2. (*пачынаць зноў*) возобновлять

**адначасова** одновременно

**адначасовы** одновременный

**аднолькавасць** *ж.* 1. одинаковость; 2. (*узгодненасць*) единообразие *н.*

**аднолькавы** 1. одинаковый; 2. (*узгоднены*) единообразный

**адносіна** *ж.*, *канц.* (*афіцыйнае пісьмо*) отношение *н.*;

а. **на імя міністра** отношение на имя министра

**адносіны** *адз. няма* отношения;

**дыпламатычныя** а. дипломатические отношения;

**працоўныя** а. трудовые отношения

**адноўлены** 1. восстановленный; 2. возобновлённый

**адобраны** одобренный

**адобрываць** (*станоўча ацэньваць*) одобрять

**адобрыць** (*станоўча ацаніць*) одобрить

**адозва** *ж.* (*дакумент*) воззвание *н.*; обращение *н.*

**адпаведна** 1. *прысл.* соответственно; 2. *прыназ. з дав., твор. скл.* согласно, согласно с (*чем*), соответственно, соответственно с (*чем*);

а. **Указу Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь** согласно Указу Президента Республики Беларусь, согласно (соответственно) с Указом Президента Республики Беларусь

**адпаведнасць** *ж.* 1. соответствие *н.*; 2. соответственность, сообразность;

**сэнсавая** а. смысловое соответствие

**адпаведнік** *м.* соответствие *н.*

**адпаве́дны** соотве́тствующий, соотве́тственный

**адпавяда́ць** (*чаму*) соотве́тствовать; отвеча́ть;

а. **прад'я́ўленым патрабава́нням** соотве́тствовать (отвеча́ть) предъя́вленным тре́бованиям;

**арыгіна́лу адпавяда́е** с по́длинным ве́рно

**адпачыва́льнік** *м.* отдыха́ющий

**адпачы́нак, -нку** *м.* 1. о́тдых; 2. (*вызваленне ад працы на пэўны тэрмін*) о́тпуск;

**нявы́карыстаны** а. (**во́дпуск**) неиспо́льзованный о́тпуск;

**чарго́вы** а. (**во́дпуск**) очередно́й о́тпуск;

**штогадо́вы** а. (**во́дпуск**) ежего́дный о́тпуск

**адпра́віць** отпра́вить, отосла́ть;

а. **бандэро́ль** отпра́вить (отосла́ть) бандеро́ль

**адпрасо́ўка** *ж.* (*рэстаўрацыйная*) отпрессо́вка

**адпра́ўка** *ж.* отпра́вка, отсы́лка

**адпраўле́нне** *н.* 1. (*дзеянне*) отправле́ние, отпра́вка *ж.*, отсы́лка *ж;* 2. (*паштовае*) отправле́ние

**адпраўля́ць** отправля́ть, отсыла́ть

**адпра́ўнік** *м.* (**адпра́ўшчык** *м.*) отправи́тель;

а. **пісьма́** отправи́тель письма́

**адпраўны́** отправно́й; отпра́вочный

**адпускна́я гра́мата** отпускна́я гра́мота

**адпускна́я запі́ска** отпускна́я запи́ска; (*запіска, якая сведчыць пра часовае вызваленне ад службовых абавязкаў вайскоўца тэрміновай службы*) увольни́тельная запи́ска

**адпускны́ дакуме́нт** отпускно́й докуме́нт

**адраджа́ць** возрожда́ть

**адраджэ́нне** *н.* возрожде́ние;

**духо́ўнае** а. **на́цыі** духо́вное возрожде́ние на́ции

**а́драс** *м.* 1. (*месцазнаходжанне*) а́дрес; 2. (*пісьмовае прывітанне*) а́дрес;

а. **арганіза́цыі** а́дрес организа́ции;

**віншава́льны** а. поздрави́тельный а́дрес;

**дама́шні (ха́тні)** а. дома́шний а́дрес;

**зваро́тны** а. обра́тный а́дрес;

**паштó́вы** а. почто́вый а́дрес;

**піса́ць на** а. писа́ть по а́дресу;

**тэлегра́фны** а. телегра́фный а́дрес

**адрасава́нне** *н.* адресова́ние;

а. **дакуме́нтаў** адресова́ние докуме́нтов

**адрасава́ны** адресо́ванный

**адрасава́ць** адресова́ть

**адраса́нт** *м.* адреса́нт

**адраса́нтка** *ж.* адреса́нтка

**адраса́т** *м.* адреса́т

**адраса́тка** *ж.* адреса́тка

**а́драс-каляндáр** *м.* а́дрес-календа́рь

**а́драснае бюро́** а́дресное бюро́

**а́драснасць** *ж.* (*называнне канкрэтнай службовай асобы*) а́дресность

**а́драсная кні́га** а́дресная кни́га

**а́драсны стол** а́дресный стол

**а́драсны ярлы́к** а́дресный ярлы́к

**адро́джаны** возрождённый

**адро́зненне** *н.* отли́чие; разли́чие

**адро́зніваць** отлича́ть; различа́ть

**адро́зніць** отличи́ть; различи́ть

**адрыўны́ каляндáр** отрывно́й календа́рь

**АДСДЗК** *гл.* **Адзі́ная дзяржа́ўная сістэ́ма дакументацы́йнага забеспячэ́ння і кірава́ння**

**АДСС** *гл.* **Адзі́ная дзяржа́ўная сістэ́ма справаво́дства**

**адсыла́льнік** *м.* отправи́тель

**адсыла́нне** *н.* (*дзеянне*) отсы́лка *ж.*, отпра́вка *ж.*

**адсыла́ць** отсыла́ть, отправля́ть

**адсы́лачны** отсы́лочный

**адсы́лка** *ж.* (*дзеянне*) отсы́лка, отпра́вка

**адтэрмінава́нне** *н.* отсро́чка *ж.*

**адтэрмінава́ны** 1. отсро́ченный; 2. продлённый

**адтэрмінава́ць** 1. (*на больш позні тэрмін*) отсро́чить; 2. продли́ть (срок);

а. **вы́пуск даве́дніка** отсро́чить вы́пуск спра́вочника;

а. **камандзіро́ўку** продли́ть командиро́вку (срок командиро́вки)

**адтэрміно́ўваць** 1. (*на больш позні тэрмін*) отсро́чивать; 2. продлева́ть (срок)

**адтэрміно́ўка** *ж.* 1. отсро́чка; 2. продле́ние *н.*

**адукава́насць** *ж.* образо́ванность

**адукава́ны** образо́ванный

**адукава́ць** обучи́ть; просвети́ть

**адукацы́йны** образова́тельный

**адука́цыя** *ж.* образова́ние *н.*;

**архівазна́ўчая** а. архивове́дческое образова́ние;

**вышэ́йшая** а. вы́сшее образова́ние;

**няпо́ўная сярэ́дняя** а. непо́лное сре́днее образова́ние;

**сярэ́дняя агу́льная** а. сре́днее о́бщее образова́ние;

**сярэ́дняя спецыя́льная** а. сре́днее специа́льное образова́ние

**адуко́ўваць** обуча́ть; (*пашыраць веды, культуру*) просвеща́ть

**адхіле́нне** *н.* 1. (*ад удзелу ў чым-небудзь*) отстране́ние; 2. (*непрыманне чаго-небудзь*) отклоне́ние

**адхі́лены** 1. (*ад пасады*) отстранённый; 2. (*непрыняты*) отклонённый

**адхілі́ць** 1. (*ад удзелу ў чым-небудзь*) отстрани́ть; 2. (*адмовіць*) отклони́ть; 3. (*не прыняць*) отве́ргнуть; отвести́;

а. **ад рабо́ты** отстрани́ть от рабо́ты;

а. **кандыдату́ру** отвести́ кандидату́ру;

а. **умо́вы пагадне́ння** отклони́ть усло́вия соглаше́ния;

а. **план рабо́ты** отве́ргнуть план рабо́ты

**адхіля́ць** 1. (*ад удзелу ў чым-небудзь*) отстраня́ть; 2. (*адмаўляць*) отклоня́ть; 3. (*не прымаць*) отверга́ть; отводи́ть

**адшука́нне** *н.* изыска́ние;

а. **сро́дкаў** изыска́ние средств

**адшука́ць** изыска́ть;

а. **рэзе́рвы** изыска́ть резе́рвы

**адшу́кваць** изы́скивать

**адэква́тна** адеква́тно

**адэква́тнасць** *ж.* адеква́тность

**адэква́тны** адеква́тный

**ажыццёўлены** осуществлённый; воплощённый (в жизнь)

**ажыццяві́ць** осуществи́ть; воплоти́ть (в жизнь)

**ажыццяўле́нне** *н.* осуществле́ние; воплоще́ние

**ажыццяўля́ць** осуществля́ть; воплоща́ть

**а́збука** *ж.* а́збука

**а́збучны** а́збучный

**азнаёміць** ознако́мить;

а. **з зага́дам** ознако́мить с прика́зом

**азнаёмлены** ознако́мленный

**азначэ́нне** *н.* определе́ние

**АІПС** *гл.* **аўтаматызава́ная інфармацы́йна-по́шукавая сістэ́ма**

**акадэмі́чная гадзі́на** академи́ческий час

**акадэмі́чная даве́дка** академи́ческая спра́вка

**акадэмі́чны во́дпуск** академи́ческий о́тпуск

**акадэмі́чны жы́вапіс** академи́ческая жи́вопись

**АКВД** *гл.* **аўтаматызаваны кантроль выканання дакументаў**

**аклад, -ду** *м.* оклад;

**гадавы а.** годовой оклад;

**каштарысны а.** сметный оклад;

**месячны а.** месячный оклад;

**службовы а. должностной оклад**

**акладны ліст** окладной лист

**акліматызаванне** *н.* акклиматизирование

**акліматызавацца** акклиматизироваться

**акліматызацыйны** акклиматизационный

**акліматызацыя** *ж.* акклиматизация;

**а. дакументаў** акклиматизация документов

**акордна** аккордно

**акордная зарплата** аккордная зарплата

**акрэдытаванне** *н., фін., дыпл.* аккредитование

**акрэдытаваны прадстаўнік** аккредитованный представитель

**акрэдытаваць** *фін., дыпл.* аккредитовать

**акрэдытыў** *м., фін.* аккредитив

**акрэдытыўнае пісьмо** аккредитивное письмо

**акрэдытыўная форма разлікаў** аккредитивная форма расчётов

**акрэдытыўны** *фін.* аккредитивный

**АКС** *гл.* **асабліва каштоўная справа**

**акт** *м.* (*дакумент*) акт;

**а. аб вызначэнні межаў абслугоўвання** акт об установлении границ обслуживания;

**а. аб выяўленні спраў** акт об обнаружении дел;

**а. аб заканчэнні пошукаў спраў** акт о завершении розыска дел;

**а. аб нармаванні працы** акт о нормировании труда;

**а. аб невыяўленні спраў** акт о необнаружении дел;

**а. аб недастачы і пашкоджанні дакументаў** акт о недостаче и повреждении документов;

**а. аб непапраўных пашкоджаннях спраў** акт о неисправимых повреждениях дел;

**а. аб парушэнні працоўнай дысцыпліны** акт о нарушении трудовой дисциплины;

**а. абследавання** акт обследования;

**а. аб тэхнічных памылках ва ўліковых дакументах** акт о технических ошибках в учётных документах;

**а. атэстацыі прадукцыі** акт аттестации продукции;

**а. ацэнкі кошту** акт оценки стоимости;

**а. выбыцця** акт выбытия;

**а. выдачы дакументаў** акт выдачи документов;

**а. вынаходак і рацыяналізатарскіх прапаноў** акт изобретений и рационализаторских предложений;

**а. гатоўнасці праектных работ** акт готовности проектных работ;

**а. дэфектацыі** акт дефектации;

**а. знішчэння дакументаў, пячатак і штампаў** акт уничтожения документов, печатей и штампов;

**а. інвентарызацыі** акт инвентаризации;

**а. на права карыстання зямлёй** акт на право пользования землёй;

**а. няшчаснага выпадку** акт несчастного случая;

**а. пераацэнкі асноўных фондаў і вызначэння зносу асноўных сродкаў** акт переоценки основных фондов и опре-

деле́ния изно́са основны́х средств;

а. **перада́чы-прыня́цця літаратýры, дакумéнтаў, экспана́таў** акт передáчи-приёма литератýры, докумéнтов, экспонáтов;

а. **перапрацóўкі вóпісаў** акт переработки óписей;

а. **правéркі наяўнасці і стáну спраў** акт провéрки налúчия и состоя́ния дел;

а. **прыёмкі** акт приёмки;

а. **прыня́цця вы́кананай прáцы** акт приня́тия вы́полненной рабóты;

а. **прыня́цця-здáчы** акт приня́тия-сдáчи;

а. **рэвíзіі** акт ревúзии;

а. **спісáння матэрыя́лаў** акт списáния материáлов;

а. **стáну буды́нкаў** акт состоя́ния здáний;

а. **тэхнíчнага агля́ду трáнспарту і абсталявáння** акт технúческого осмóтра трáнспорта и обору́дования;

а. **тэхнíчнага выпрабавáння** акт технúческого испытáния;

а. **улíку працóўных кнíжак і ўклáдак да іх** акт учёта трудовы́х кнúжек и вклáдышей к ним;

а. **экспертызы** акт экспертúзы;

**акты грамадзя́нскага стáну** áкты граждáнского состоя́ния

**акты óрганаў дзяржáўнага кіравáння** áкты óрганов госудáрственного управлéния;

**дзяржáўны а.** госудáрственный акт;

**заканадáўчыя áкты** законодáтельные áкты;

**зéмскія áкты** *гіст.* зéмские áкты;

**камерцы́йны а.** коммéрческий акт;

**нарматы́ўны а.** норматúвный акт;

**перадáтачны а.** передáточный акт;

**прававы́ а.** правовóй акт;

**прыёмна-здáтачны а.** приёмно-сдáточный акт;

**рэкламацы́йны а.** рекламациóнный акт;

**сістэматызавáныя áкты** систематизúрованные áкты;

**старажы́тныя áкты ўстанóў Вялікага кня́ства Літóўскага** дрéвние áкты учреждéний Велúкого кня́жества Литóвского;

**юрыды́чныя нарматы́ўныя áкты** юридúческие норматúвные áкты

**áктавая кнíга** áктовая кнúга

**áктавая папéра** áктовая бумáга

**áктавая пóшліна** áктовая пóшлина

**áктавы збор** áктовый сбор

**актуáрый** *м.* (*служачы замежнай страхавой кампаніі*) актуáрий

**Áкты Літóўскай мéтрыкі** Áкты Литóвской мéтрики

**акты́ў[1] -ты́ву** *м.* актúв;

**прафсаю́зны а.** профсою́зный актúв

**акты́ў[2] -ты́ву** *м., бухг.* актúв

**акты́ўнае сáльда** *бухг.* актúвное сáльдо

**акты́ўна-пасíўныя раху́нкі** *бухг.* актúвно-пассúвные счетá

**акты́ўнасць** *ж.* актúвность;

**твóрчая а.** твóрческая актúвность

**акты́ўны балáнс** *бухг.* актúвный балáнс

**акты́ўныя раху́нкі** *бухг.* актúвные счетá

**аку́пнасць** *ж.* окупáемость;

а. **капітáльных укладáнняў** окупáемость капитáльных вложéний

**акурáтна** аккурáтно

**акурáтнасць** *ж.* аккурáтность

**акцыз, -зу** *м.* (*від падатку*) акциз
**акцызны збор** акцизный сбор
**акцыйны** акционный
**акцыя** *ж.* (*каштоўная папера*) акция;
**банкаўская а.** банковская акция;
**заснавальніцкая а.** учредительская акция;
**іменная а.** именная акция;
**прывілеяваная а.** привилегированная акция
**акцыянер** *м.* акционер
**акцыянернае таварыства** акционерное общество
**акцыянерная кампанія** акционерная компания
**акцыянерны банк** акционерный банк
**акцэнт, -ту** *м.* акцент
**акцэнтаваць** акцентировать
**акцэпт, -ту** *м., бухг.* акцепт;
**а. вэксаля** акцепт векселя;
**а. чэка** акцепт чека;
**папярэдні а.** предварительный акцепт
**акцэптаванне** *н.* акцептование
**акцэптаваны рахунак** акцептованный счет
**акцэптаваны чэк** акцептованный чек
**акцэптавацца** акцептоваться
**акцэптаваць** акцептовать
**акцэптант** *м.* акцептант
**акцэптацыя** *ж.* акцептация
**акцэптная форма разлікаў** акцептная форма расчётов
**акцэптны** акцептный
**аліменты** *адз. няма* алименты
**аловак** *м.* карандаш
**алоўкавы** карандашный
**алфавіт** *м.* алфавит
**алфавітная адзнака** алфавитный признак
**алфавітная картатэка** алфавитная картотека
**алфавітны даведнік** алфавитный справочник
**алфавітны паказальнік** алфавитный указатель
**алфавітны парадак** алфавитный порядок
**альбом** *м.* альбом
**альбомная форма публікацыі** альбомная форма публикации
**альбомны** альбомный
**амартызаваны** амортизированный
**амартызаваць** амортизировать
**амартызацыйнае адлічэнне** амортизационное отчисление
**амартызацыйны фонд** амортизационный фонд
**амартызацыйныя выдаткі (расходы)** амортизационные расходы
**амартызацыя** *ж.* амортизация;
**а. асноўных сродкаў** амортизация основных средств
**амніставанне** *н.* амнистирование
**амніставаны** амнистированный
**амніставаць** амнистировать
**амністыя** амнистия
**аналаг, -гу** *м.* аналог
**аналагавая вылічальная машына** аналоговая вычислительная машина
**аналага-лічбавая вылічальная сістэма** аналого-цифровая вычислительная система
**аналагічна** аналогично
**аналагічны** 1. (*заснаваны на аналогіі*) аналогический; 2. (*падобны*) аналогичный
**аналіз, -зу** *м.* анализ;
**а. архіўнай справы** анализ архивного дела;
**а. балансу** анализ баланса;
**а. прадукцыйнасці працы** анализ производительности труда;
**а. якасці прадукцыі** анализ качества продукции;
**інфармацыйны а. рэтраспектыўнай дакументнай інфармацыі** информационный анализ

